Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 36 (4734) 13 верасня 2013 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ «Аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 2012 года». У галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры высокай узнагародай адзначаны народны артыст Беларусі Віктар Манаеў, мастак-пастаноўшчык Вольга Мацкевіч і кампазітар Андрэй Зубрыч — за стварэнне спектакля «Пінская шляхта» на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы; артыст-вакаліст — вядучы майстар сцэны Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Ніна Шарубіна — за выдатныя дасягненні ў галіне вакальнага і выканальніцкага майстэрства; аўтарскі калектыў у складзе Валерыя Куцко, Уладзіміра Будаева і Анатоля Шабаліна — за стварэнне шматпрофільнага культурна-спартыўнага комплексу «Мінск-Арэна».

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 80-гадовым юбілеем народную артыстку СССР Таццяну Дароніну. «Яркі талент, высокае прафесійнае майстэрства і вернасць абранай справе дазволілі вам стаць адной з самых вядомых актрыс сучаснасці, — гаворыцца ў віншаванні. — Няхай і ў далейшым ваша нястомная і плённая дзейнасць спрыяе развіццю культурных сувязей паміж нашымі краінамі, дае імпульс умацаванню сяброўства і супрацоўніцтва», — пажадаў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народнага артыста Расійскай Федэрацыі Ігара Касталеўскага з 65-годдзем. «Дзякуючы яркаму таленту, абаянню і высокаму прафесіяналізму вы сталі адным з прызнаных майстроў тэатральнага мастацтва і кіно. На беларускай зямлі вы карыстаецеся заслужаным прызнаннем і любоўю гледачоў», — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Пасяджэнне пастаянна дзеючага арганізацыйнага камітэта Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад» прайшло пад старшынствам намесніка Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Анатоля Тозіка. Разгледжаны пытанні падрыхтоўкі мерапрыемства, ухвалены план падрыхтоўкі і правядзення кінафэсту, а таксама склад экспертнай камісіі для адбору фільмаў. Юбілейны ХХ фестываль пройдзе ў Мінску з 1 па 8 лістапада. Заяўкі паступілі ўжо з 35 краін блізкага і далёкага замежжа.

✔ На ХІІІ Міжнародным музычным фестывалі «Залаты шлягер-2013», які пройдзе ў Магілёве 8 — 13 кастрычніка, будзе аднаўлены конкурс маладых выканаўцаў. Ён дасць магчымасць удзельнікам праявіць сябе ў якасці музыкантаў, выканаўцаў і прадзюсараў. На гэты час заяўкі падалі спевакі з Беларусі, Расіі, Сербіі, Македоніі, Балгарыі, Малдовы, Арменіі, Латвіі.

✔ Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм» скончыла здымкі дзіцячага прыгодніцкага двухсерыйнага тэлевізійнага фільма «Палескія рабінзоны, або Цуда-востраў» па матывах знакамітай аповесці Янкі Маўра «Палескія рабінзоны». Галоўныя ролі выканалі беларускія школьнікі. Сцэнарый напісалі Фёдар і Ягор Коневы, рэжысёр-пастаноўшчык — Сяргей Сычоў. Кінастужка выйдзе на экраны ў пачатку 2014 года.

**Падрыхтавала Іна ЛАЗАРАВА**





*Фота Кастуся Дробава*

# За высокія дасягненні

**Прадстаўнікі розных сфер уганараваны дзяржаўнымі ўзнагародамі Рэспублікі Беларусь за шматгадовую плённую працу, узорнае выкананне службовых абавязкаў і высокае прафесійнае майстэрства, у тым ліку за значныя дасягненні ў галіне адукацыі, навукі, культуры і мастацтва. Адпаведны ўказ падпісаў Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка.**

**Святлана СТРОК**

Вядучы майстар сцэны тэатра-студыі кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» Святлана Сухавей адзначана ордэнам Францыска Скарыны. Сярод тых, хто ўзнагароджаны медалём Францыска Скарыны, — кіраўнік дзяржаўнай установы культуры «Творчыя майстэрні «Цэнтр сучасных мастацтваў» Віктар Альшэўскі, дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч і рэктар Мінскага абласнога інстытута развіцця адукацыі Святлана Сітнікава.

Ганаровае званне «Народны артыст Беларусі» прысвоена артысту драмы, вядучаму майстру сцэны Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Зінаідзе Зубковай.

Працаўнікі розных сфер адзначаны ганаровымі званнямі «Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь», «Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь», «Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь», «Заслужаны работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь» і інш.

**«ЛіМ» віншуе першага сакратара Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзя Пашкова з прысваеннем ганаровага звання «Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь».**

## Генадзь ПАШКОЎ

* * *

*На мазырскіх*
*узвышшах*
*старадаўнія ліпы,*
*а ў лугах заліўных*
*каля сумных ракіт*
*коціць шырака*
*Прыпяць,*
*вечна юная Прыпяць,*
*салаўіную песню*
*і чысты блакіт.*

*Немагчыма стрымаць*
*смутку светлага*
*ў сэрцы,*
*і гаруча сляза*
*на шчаку упадзе.*
*І жыццё ў гэтым свеце,*
*як над хваляю вецер,*
*і вірыць,*
*і сплывае*
*на вечнай вадзе.*

*Твой імклівы чаўнок*
*у тумане растане*
*між ракітаў птушыных*
*і выспелых траў,*
*але покуль жывеш —*
*не перастане*
*і натхняць,*
*і трывожыць*
*загадкавы край.*

*У прастору дыхнуў*
*век нязнанай атрутай.*
*Засцярожлівы боль*
*і надзея ў вачах.*
*А дубровы маўчаць,*
*ды густой*
*мятай-рутай*
*даўка горкне туман,*
*як раней*
*па начах.*

*Ты вазьмі мяне,*
*Прыпяць,*
*загайдай чаратамі,*
*ахіні лёгкім голлем*
*трывожных ракіт.*
*І хай кружыць вірамі*
*пад чаўном*
*і над намі*
*гэта сумная песня*
*і чысты блакіт.*

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# «Гасціначка» для дзіцячай хаціначкі

**Барыс ЛЕСІН**

У Дзяржаўным літаратурна-мастацкім музеі Якуба Коласа пачаўся чарговы сезон «Літаратурных чацвяргоў». Гонар прадоўжыць іх выпаў знакамітаму дзіцячаму пісьменніку, а таксама паэту-гумарысту і сатырыку, лаўрэату прэміі імя Янкі Маўра Уладзіміру Мацвеенку. Уладзімір Іванавіч месяцам раней адзначыў сваё 85-годдзе, але, нягледзячы на паважаны ўзрост, паранейшаму творча актыўны. Пацвярджэннем таму — яго ныя кнігі, што рыхтуюцца да друку, а таксама публікацыі ў перыёдыцы. Яны не проста юбілейныя, як бывае ў падобных выпадках, пра гэта літаратура самай высокай мастакоўскай пробы.

Фота Кастуся Дробава




*Зінаіда Камароўская віншуе юбіляра.*

Пра тое казалі, адкрываючы вечарыну, дырэктар музея Зінаіда Камароўская, вядучая — галоўны спецыяліст Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Іна Фралова, а таксама тыя, хто вітаў юбіляра. Старшыня аддзялення Міхась Пазнякоў уручыў У. Мацвеенку медаль Саюза пісьменнікаў Беларусі «За вялікі ўклад у літаратуру» і Ганаровую грамату Мінскага гарадскога аддзялення СПБ. Старшыня секцыі дзіцячай літаратуры Уладзімір Мазго, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка» Уладзімір Ліпскі, Ніна Галіноўская, Мікола Чарняўскі, Ганад Чарказян, галоўны рэдактар часопіса «Вожык» Юлія Зарэцкая разам з намеснікам галоўнага рэдактара Аляксандрам Каршакевічам і актыўнейшым «вожыкаўцам» Паўлам Саковічам, галоўны рэдактар часопіса «Бібліятэка прапануе» Людміла Несцяровіч адзначалі, што У. Мацвеенка належыць да ліку тых пісьменнікаў, творы якіх заўсёды запатрабаваныя. Сімвалічны сэнс набывае кніжка ягоных выбраных твораў для дзяцей, што на падыходзе да чытача, — «Гасціначка».

Парадаваў прысутных сваім выступленнем і ўзорны ансамбль «Калейдаскоп» СШ № 159 г. Мінска пад кіраўніцтвам Ліліі Новік. І, канечне ж, цікава было слухаць самога віноўніка ўрачыстасці. Уладзімір Іванавіч згадаў эпізоды са свайго ваеннага маленства, прачытаў новыя творы.

# Тыдзень крэатыву

З 22 па 28 верасня Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт сумесна з Упраўленнем па справах культуры БДУ правядуць X Міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў «Тэатральны куфар». Тыдзень бязмежнага крэатыву, новыя сябры, яркія ўражанні і, вядома ж, выдатныя спектаклі!

У фестывалі возьмуць удзел лепшыя студэнцкія тэатры і вядомыя тэатральныя дзеячы з Беларусі, Бангладэш, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Германіі, Грэцыі, Грузіі, Канады, Латвіі, Літвы, Македоніі, Малдовы, Польшчы, Расіі, Славеніі, Турцыі, Францыі, Эстоніі. У межах фестывалю будзе прадстаўлена некалькі прэм'ер!

Урачыстае адкрыццё адбудзецца 23 верасня ў 18:30 на пляцоўцы Ліцэя БДУ. Падчас фестывалю будзе прадстаўлена некалькі праектаў:

«Куфар.by» (шоукейс беларускіх студэнцкіх тэатраў) пройдзе на працягу тыдня па-за конкурсам, але ў межах фестывалю. Аднак беларусы будуць удзельнічаць у барацьбе за галоўны прыз «Гран-Куфар» нароўні з усімі.

«Koufar-to-Stage». Гэты праект прадугледжвае стварэнне сумесных спектакляў, правядзенне на працягу года майстар-класаў па акцёрскім майстэрстве і рэжысуры, а таксама семінараў па гісторыі нацыянальных культур. У межах цяперашняга праекта адбудзецца прэм'ера спектакля «Ана і ананас» па п'есе беларускага драматурга Мікалая Рудкоўскага. Спектакль прадставіць Дзяржаўны драматычны тэатр імя В. Гуніе (Поці, Грузія).

На працягу тыдня таксама адбудзецца прэзентацыя новага сумеснага з Цэнтрам беларускай драматургіі праекта «КуфарДрамаЛаб». Тры замежныя рэжысёры паставяць тры п'есы сучасных беларускіх драматургаў на трох розных мовах. Кожная п'еса будзе прадстаўлена ў форме чыткі або фрагмента пастаноўкі максімальнай працягласцю 30 хвілін. У ажыццяўленні праекта будуць задзейнічаны толькі ўдзельнікі фэсту. Прэзентацыя пастановак адбудзецца напрыканцы фестывалю.

Конкурсную праграму будзе ацэньваць незалежнае журы прафесіяналаў. «Гран-пры» атрымае спектакль, які выберуць гледачы.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

*Стасункі*

# Па еўрапейскі досвед

Менш як месяц застаўся да адкрыцця Франкфурцкага міжнароднага кніжнага кірмашу, які пройдзе з 9 па 13 кастрычніка ў г. Франкфурт-на-Майне (Германія). Ганаровым госцем на форуме стане Бразілія. Да ўдзелу ў кірмашы запрошаны і Выдавецкі дом «Звязда», прадстаўнікі якога прадэманструюць на ўласным стэндзе літаратуру, якую выпускае ўстанова. Плануецца, што Выдавецкі дом «Звязда» будзе прэзентаваць свае перакладчыцкія праекты: выданне «Казкі дзяцей Беларусі» (убачыла свет на рускай і нямецкай мовах) і кнігу Алены Брава «Дараванне. Прощение. VERGEBUNG», якая выйшла на трох мовах: беларускай, рускай і нямецкай.

Падчас правядзення форуму можна будзе пазнаёміцца з літаратурнымі навінкамі краін, якія рэкламуюць сваю кніжную прадукцыю на гэтай маштабнай выстаўцы, прасачыць за зменамі тэндэнцый у афармленні кніг для дзяцей малодшага ўзросту і падлеткаў, выявіць новыя серыі, якія карыстаюцца павышаным попытам, каб скарыстаць атрыманую інфармацыю ў далейшай выдавецкай дзейнасці.

**Раіса МАРЧУК**

# Адсвяткуем Дзень горада ў Мастацкім!

Нацыянальны мастацкі музей віншуе мінчан і гасцей сталіцы з Днём горада і запрашае наведаць акцыю «Вераснёвы вечар у Мастацкім», якая адбудзецца 15 верасня. На пляцоўцы перад музеем можна будзе ўбачыць дзіцячы пленэр «Мой горад» і віншаванне студыі «У госці да Цюбіка», а ў Белай зале Мастацкага адбудзецца адкрыццё выстаўкі навучэнцаў Гімназіі № 75 г. Мінска «Чароўная сіла натхнення». Канцэртная праграма пройдзе з удзелам Акадэмічнага хору Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь, хору студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, аматарскага народнай вакальнай групы «Кантабіле» са Смаргоні. З асабістай паэтычнай праграмай «Колькі ў нас яшчэ застанецца гарадоў?» выступіць Аліса Мініна. Жывы гук, разумную электроніку і шматімправізацыі пачуюць госці ад Дзімы Кацечава (*Live Looping*: электраскрыпка і бітбокс). Акустычную праграму «Упасці» прадэманструе Мікіта Найдзёнаў. Студэнцкі тэатр факультэта міжнародных зносін Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта прадставіць «Маналогі на плошчы» і адзначыць сваё пераймянаванне ў Босы студэнцкі тэатр.

У межах святкавання Дня горада ў Мастацкім музеі будзе праходзіць выстаўка адной карціны «Вера — гэта дар Божы» мастака Сяргея Салохіна. На карціне — партрэт Віктара Роўды, народнага артыста Беларусі, мастацкага кіраўніка і галоўнага дырыжора Заслужанага акадэмічнага хору Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Беларусі. Мастацтва Сяргея Салохіна напоўнена глыбокімі філасофскімі разважаннямі пра адвечнае чалавечае быццё і месца мастака ў гэтым свеце.

**Таццяна ШЫМУК**

*Між іншым*

# Конкурс працягваецца...

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міжнародны фонд «Сям'я, Адзінства, Айчына» нагадваюць аб правядзенні ў 2013 годзе літаратурнага конкурсу на тэму «Сям'я — першая школа духоўнасці і патрыятызму» ў намінацыях «Проза» (апавесці, апавяданні), «Дзіцячая літаратура» (казкі, апавяданні, драматургія), «Паэзія» (вершы, вершаваныя казкі).

За лепшыя празаічныя творы ўстаноўлены: 1-я прэмія — 7 млн. руб., 2-я прэмія — 5 млн. руб. За лепшыя творы дзіцячай літаратуры: 1-я прэмія — 6 млн. руб.; 2-я прэмія — 4 млн. руб.; 3-я прэмія — 2 млн. руб. У галіне паэзіі: 1-я прэмія — 3 млн. руб.; 2-я прэмія — 2 млн. руб.

Конкурс праводзіцца з 1 мая па 1 снежня 2013 года. Працы на конкурс накіроўваць па адрасе: 220034, г. Мінск, вул. Фрунзэ, 5. Саюз пісьменнікаў Беларусі. З паметкай «На конкурс "Сям'я"».

Старшыня журы конкурсу — У. Грозаў, члены журы — І. Саверчанка, А. Марціновіч, У. Мазго, З. Падліпская, А. Бадак, В. Шырко. У конкурсе могуць узяць удзел прафесійныя пісьменнікі, журналісты, педагогі, аматары мастацкага слова.

**Іна ІВАНОВА**

*Абрысы*

Напярэдадні да Купалавай Беларусі, багатай і годнай, пяшчотнай і непаўторнай, запрасіў Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы ў межах святкавання Дня горада Мінска. Наведвальнікам прапанавалі ўзяць удзел у інтэрактыўнай гульні-падарожжы «Музейныя лабірынты» па новых залах экспазіцыі, адна з якіх адлюстроўвае жыццё паэта ў Мінску з 1919 па 1941 год. Будуць вызначаны пераможцы, якім уручаць памятныя прызы. Атмасферы свята адпавядае і вядучая — Паўлінка. Акрамя таго, наведвальнікі новай экспазіцыі з дапамогай сучасных інфармацыйных тэхналогій пазнаёмяцца з рарытэтнымі прадметамі музейных калекцый, убачаць Мінск часоў паэта, здзейсняць падарожжа па яго мінскіх адрасах, наведаюць інтэрактыўную зону «Хлопчык і лётчык».

Мастацкая выстаўка «Мінск — ведаць, памятаць, ганарыцца!», прысвечаная Дню горада, адкрылася ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У экспазіцыі ўпершыню прадстаўлена значная частка рарытэтнай калекцыі графікі ў жанры пасляваеннага пейзажу. Гэта серыя малюнкаў, эцюдаў, выкананых алоўкам, вуглём, тушшу, у тэхніцы акварэлі беларускімі мастакамі ў акупіраваным і вызваленым Мінску — А. Каржанеўскім, М. Дучыцам, А. Волкавым, М. Філіповічам, П. Масленнікавым, У. Сакаловым. У кожнага з іх свая памяць пра вайну, свой боль і глыбіня суперажывання за лёс роднага горада. Дамінуе ў цэнтры экспазіцыйнага пояса карціна народнага мастака Беларусі Я. Зайцава «Парад партызан у г. Мінску» (1947).

Урачысты для сталіцы дзень Музей гісторыі горада Мінска запрашае танчыць з 12.00 і да 19.00. У праграме «Танцавальны каляндар» будзе паказана гісторыя танца ў горадзе. Наведвальнікі музея змогуць не толькі назірадь за рознымі «па», але і вучыцца танчыць. Пяць разоў зменяцца дэкарацыі гістарычных эпох. Будуць тут і рытуальныя рухі продкаў, і танцы беларускай шляхты, і нязрымслівая «Лявоніха», і заліхвацкі галоп, і майстар-клас па бальных танцах XVIII ст., і бугі-вугі, рок-н-рол, твіст… Завершыцца вечар балем ад Музычнага дома «Класіка» — «У госці да пана Кабылінскага», падчас якога будзе гучаць жывая музыка, а плошча напоўніцца персанажамі мінулых гадоў.

Да дня горада Вілейскі краязнаўчы музей ладзіць выстаўку «З Вілейкі з любоўю...». Упершыню ў Мінску будуць прадстаўлены маляваныя дываны, малюнкі на шкле і іншыя атрыбуты вяскова побыту Вілейшчыны першай паловы XX ст. Традыцыя стварэння маляваных дываноў у Беларусі нарадзіла такія сусветна вядомыя імёны, як Алена Кіш ды Язэп Драздовіч, і стымулюе многіх сучасных прафесійных мастакоў да спроб аднаўлення гэтай выяўленчай традыцыі. Выстаўка са збору Вілейскага музея ў сталічнай галерэі — унікальная нагода зірнуць на самі сябе ў нашых вытоках, атрымаць асалоду ад жывой прыгажосці работ народных майстроў.

# Пад небам Коласа

**Так называецца выстаўка з фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, якая адкрылася ў мемарыяльным музеі Крысціёніса Данелайціса, што ў Несцераўскім раёне Калінінградскай вобласці.**

**Зінаіда КАМАРОЎСКАЯ**



*Падчас адкрыцця выстаўкі.*

На пераломным этапе гісторыі, у складаныя для народа перыяды, ствараюцца глыбокія, філасофскія, прароцкія творы. Такім прарокам для Беларусі стаў Якуб Колас — яго несмяротная паэма «Новая зямля» па праве лічыцца брэндам нашай краіны, а для літоўцаў такі прыклад — Крысціёніс Данелайціс з паэмай «Поры года», якая ўключана ў спіс ЮНЕСКА «Шэдэўры еўрапейскай літаратуры».

Напісаная больш як 200 гадоў таму паэма Данелайціса «Поры года» і «Новая зямля» Коласа, якой сёлета споўнілася 90 гадоў, цікавыя нам сёння і народнымі традыцыямі, і мараллю, і глыбокімі філасофскімі матывамі, любоўю да чалавека працы і да створанай Богам зямлі.

З нагоды юбілейнай даты паэмы «Новая зямля» Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа ажыццяўляецца шэраг мерапрыемстваў, прадугледжаных праектам «Зямля — аснова ўсёй айчыне», у межах якога і адбылося адкрыццё на зямлі Данелайціса выстаўкі, куды ўвайшло звыш 40 работ фотамастакоў Васіля Зянько, Уладзіміра Сіза, Яўгена Казюлі. Фотамайстры яскрава, па-мастацку адлюстравалі мемарыяльныя коласаўскія сядзібы — родныя мясціны паэта на Стаўбцоўшчыне.

Гэтыя работы — своеасаблівыя ілюстрацыі да раздзелаў паэмы «Новая зямля», якія раскрываюць прыгажосць «роднага кута» — крыніцу натхнення паэта. Яны сталі сімвалам творчага яднання беларусаў, рускіх, літоўцаў, нягледзячы на сотні кіламетраў, што праляглі ад Стаўбцоўшчыны да мясцін К. Данелайціса, на час, які раздзяляе паэтаў.

Цікава, што некаторыя факты ў біяграфіях паэтаў пераклікаюцца праз стагоддзі і з'яўляюцца сведчаннем агульнага імкнення да добрых, бескарысных спраў.

К. Данелайціс адбудаваў у сваёй мясцовасці школу, якая згарэла; Якуб Колас у пасляваенны час таксама адбудаваў школу ў в. Мікалаеўшчына. Данелайціс пасадзіў сад, Колас таксама садзіў шмат пладовых дрэў, рупіўся пра іх захаванне. Кожнага турбавала надвор'е, ад якога залежыць ураджай, таму яны заўсёды звярталіся да барометраў. У Якуба Коласа было некалькі такіх прыбораў, якім ён нават прысвяціў жартаўлівы верш, а Крысціёніс Данелайціс сам змайстраваў барометр, якім і карыстаўся.

У адкрыцці выстаўкі ўзялі ўдзел прадстаўнікі кіраўніцтва Несцераўскага раёна, члены Саюза пісьменнікаў Расіі, сярод якіх ураджэнка Гомельскай вобласці С. Філатава, вакальны ансамбль «Фурор» несцераўскага ДК, удзельнікі якога таксама нашыя землякі. Цырымонію адкрыцця асвятлялі тэлекампаніі г. Калінінграда і Калінінградскай вобласці. Сустрэча з супрацоўнікам адной з іх, мастаком, скульптарам (карані якога з коласаўскіх мясцін — в. Белькаўшчына) Віталіем Хвалеем была асабліва прыемнай. Ён — аўтар бюста К. Данелайціса, устаноўленага ў Гусеве Калінінградскай вобласці.

У лістападзе 2013 года, згодна з дамовай паміж музеем Якуба Коласа і Калінінградскім абласным гісторыка-мастацкім музеем, будзе адкрыта выстаўка, прысвечаная творчасці Крысціёніса Данелайціса з нагоды 300-годдзя з яго нараджэння і 90-годдзя паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». Дзве паэмы, як перагук эпох, звязваюць аўтараў любоўю да сваёй зямлі і ўсяго жывога на ёй, клопатам пра чалавека працы. У кожнай з іх закладзены тыя маральныя прынцыпы жыцця, правілы паводзін, якія з'яўляюцца асновай захавання чалавека як асобы, здольнасці яго ў любых абставінах заставацца Чалавекам.

# Эксперыменты з малюнкамі

**Музей сучаснага выяўленчага мастацтва прапануе выстаўку прац педагогаў кафедры фатаграфіі Познанскага мастацкага ўніверсітэта «Бачнае — Невымоўнае». Палякі прывезлі да нас наватарства — не толькі ў тэхніцы, але і ў своеасаблівым поглядзе на рэчаіснасць.**

Куратар выстаўкі, польскі фотамастак, гісторык мастацтваў, прафесар Анджэй Флёркоўскі адзначыў: "Я хацеў, каб гэтыя фотапрацы былі не падобныя да тых, што звычайна прэзентуюцца сродкамі масавай інфармацыі. Каб яны не былі простым паказам рэчаіснасці, а сталі як мага далей ад дакументалістыкі. Думаецца, што гэта атрымалася. З аднаго боку, ёсць эксперыменты, з другога — працы, зробленыя пры дапамозе самай ранняй тэхнікі фатаграфіі».

Эксперыментаў прадстаўлена мноства. Смелых, неадназначных. Фатографы робяць з вобразамі ўсё, што захочацца, але ж не дзеля эпатажу, а дзеля ідэі. Томаш Галецкі ў серыі «Green Screen» маніпулюе візуальнымі вобразамі, пластычна круціць іх і як быццам кажа: «Так можна маніпуляваць рэальнымі людзьмі!» Добра выкарыстоўвае вобразы і Магда Лазарчык у сваіх «Крэатурах». Са звычайнага адзення яна робіць чалавечыя страсці: наватарскае мастацтва прадугледжвае мноства інтэрпрэтацый. Анна Кэндзёра ў цыкле «Silent Spring» літаральна гуляе вобразамі, выстаўляючы на фоне прыроды прадукты сучаснасці (плёнку, лямпачкі). А Пётр Валынскі ў серыі «Зараза» вобразы… выразае. Так, людзі на яго фотаздымках — чорныя сілуэты, цені, як у фільме жахаў. Безумоўная вяршыня гэтых «гульняў» з візуальнымі малюнкамі — работы Славаміра Дэцыка «Шкляны сон». Мастак з дапамогай камеры-абскуры паказвае штодзённы рух сонца: ад світання да заходу. На яго фотаздымках сонца ператвараецца ў палосачкі: чорныя, карычневыя, залацістыя…

Гэта адзін бок медаля. Рашуча-інавацыйны. Другі — тонка-класічны — прадстаўлены не толькі дагератыпамі Яраслава Клупся з яго гарадскімі сюжэтамі, але і сімвалічнымі працамі Януша Алекса, і працай самога Анджэя Флёркоўскага «Quo vadis». Аб'ект Флёркоўскага — дрэвы. Аднак разважанне гэтых дрэў, іх шматлікасць (прычым вялікі памер фотаздымка робіць гэтую шматлікасць яшчэ больш адчувальнай) падштурхоўваюць да роздуму.

Дырэктар Музея сучаснага выяўленчага мастацтва Наталля Шаранговіч прызналася: «Мы выказалі здагадку, што і выкладчыкам беларускай Акадэміі мастацтваў, і студэнтам будзе цікава ўбачыць, які ўзровень у польскай найстарэйшай кафедры фатаграфіі. Які візуальны напрамак, якая тэматыка, якая тэхналогія імі выкарыстоўваецца. Гэта выстаўка не проста цікавая — яна нясе ў сабе і пазнавальны зарад, неабходны нашай мінскай публіцы».

Польскія фатографы паказалі, якім разнастайным можа быць наватарства.

**Паліна ПЛАТАВА**

# «Камяніца». Новы фармат



*На сцэне «Камяніцы» — польскі гурт Orkiestra Sw. Mikolaja*

Хтосьці паскардзіцца на кепскі гук і недахопы арганізацыі. Нехта адзначыць выступленне асобных гуртоў ці выканаўцаў. Я ж падкрэслю, што фальклорны фестываль «Камяніца», які вось ужо пяты раз прайшоў у Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту, адметны перш за ўсё сваёй сяброўскай атмасферай, непаўторнай душэўнасцю.

Напэўна, таму арганізатары абралі для фестывалю крыху новы фармат. «Камяніца-2013» доўжылася два дні. Увечары, напярэдадні асноўнага дня, у Азярцы прайшла «Сяброўская вячэра» — закрытая імпрэза для ўдзельнікаў фэсту розных гадоў. У цёплай добразычлівай атмасферы госці вечара мелі магчымасць не толькі пагутарыць, абмеркаваць апошнія навіны, падзяліцца планамі на будучыню і вырашыць некаторыя дзелавыя пытанні, але і паўдзельнічаць у дэгустацыі старажытных беларускіх страў — дранікаў, верашчакі і збіцню, якія тут жа, на свежым паветры, гатаваліся падчас майстар-класа ад страўні «Камяніца». Быў хлеб, таму, натуральна, былі і відовішчы: у межах сустрэчы сяброў прайшлі міні-прэзентацыі альбомаў гуртоў «Палац», «Аляксандра і Канстанцін» і Ірэны Катвіцкай. На сцэне выступіў гурт *Shuma*, у творчасці якога фолкавыя спевы гарманічна спалучаюцца з электроннай музыкай. Кулінарную ж праграму вечара дапоўніла прэзентацыя фільма «Гісторыя беларускай страўні».

Другі фестывальны дзень стаў сапраўды «вялікім», як і было заяўлена ў праграме. Больш як 8 тысяч наведвальнікаў (гэта толькі па квітках, а калі ўлічыць гледачоў у народных строях, якія паводле правіл праходзяць на фэст бясплатна, гасцей, журналістаў, то лічба атрымаецца намнога большай), дзве сцэны, выступленні сямі вядомых гуртоў з Беларусі, Украіны і Польшчы, а таксама дзіцячых фолькалектываў з розных куткоў краіны. Ды і імёны ўдзельнікаў сёлетняга фэсту ўражваюць: на сцэне «Камяніцы-2013» выступалі «Палац», «Стары Ольса», *Guda* (Беларусь), бадай, самы вядомы калектыў на украінскай фольк-сцэне «ДахаБраха» (Украіна), *Orkiestra Sw. Mikolaja* (Польшча), *Hvarna* (Беларусь / Расія) і «Фолкнери» (Украіна).

Адметна таксама, што апроч асноўнай, забаўляльнай функцыі фэст «Камяніца» ўжо стала выконвае і, так бы мовіць, дадатковую выхаваўчую ролю — спрыяе абуджэнню цікавасці моладзі да фальклору. Яшчэ адна рыска да прызнання прэстыжу традыцый — конкурс пар у нацыянальных строях, пераможцы якога традыцыйна атрымліваюць сертыфікат на вячэру на дваіх у страўні «Камяніца». Сёлета перамаглі Дзям'ян і Юлія. У іх касцюмах былі і аўтэнтычныя прадметы, якія засталіся ў спадчыну ад бабуліі прабабулі.

**Марына ВЕСЯЛУХА, фота аўтара**

---

Урачыста адкрыўся ў Брэсце XVIII Міжнародны тэатральны фестываль «Белая вежа», які ўпершыню пройдзе без журы. Лепшы спектакль форуму і Гран-пры вызначыць савет фэсту, у які ўвойдуць прадстаўнікі аргкамітэта, прэсы, тэатразнаўцы і крытыкі. Меркаванне гледачоў пры падвядзенні вынікаў таксама будзе ўлічана. Фестываль мае аўтарытэт і вагу ў тэатральным свеце. Сёлета для ўдзелу ў «Белай вежы» пададзена больш як 200 заявак. Адабрана два дзясяткі найбольш годных работ. Значнай культурнай падзеяй назваў фестываль міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў, які зазначыў, што сёння ў культурным жыцці няма выразнага дзялення на сталіцу і перыферыю. Любы рэгіён можа сапернічаць за права звацца цэнтрам культуры.

Музей сучаснага выяўленчага мастацтва прадстаўляе персанальную выстаўку Уладзіміра Лапо «Крок у змрок». Уладзімір Лапо — мастак, графік, скульптар, стваральнік інсталяцый, літаратар у адной асобе. Ён знаходзіцца на памежжы асяроддзяў, груп, сістэм, адчувае ўплыў іх супярэчных нормаў і каштоўнасцей. Праект «Крок у змрок» прэзентуе творы графікі розных гадоў і скульптуру, выкананую ў тэхналогіі directcast — прамога ліцця. У скульптурах Лапо няма месца натуралістычнасці выявы, на першы план выходзіць эксперымент, вызначаецца эмацыянальны напал працэсу стварэння і ўспрымання.

Зніклая карціна Ван Гога знайшлася ў Нідэрландах. Спецыялісты амстэрдамскага Музея Ван Гога заявілі пра выяўленне карціны «Заход у Манмажуры». Палатно было напісана ў 1888 годзе і лічылася бясследна зніклым. Карціна «чакала» лепшых часоў на гарышчы ўладальніка прыватнага збору жывапісу з Нарвегіі. Гэта першае поўнапамернае тварэнне вялікага мастака, якое знайшлося з 1928 года. Устанавіць аўтарства палатна атрымалася дзякуючы новым метадам даследавання. У прыватнасці, спецыялісты здолелі дакладна ідэнтыфікаваць подпіс жывапісца. Мяркуецца, што ўжо ў гэтым месяцы «Заход у Манмажуры» будзе выстаўлены для агляду ў амстэрдамскім музеі.

---

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ смуткуюць з прычыны смерці пісьменніка, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны Васіля Фаміча МАЕЎСКАГА і выказваюць шчырыя спачуванні родным і блізкім.

Супрацоўнікі Выдавецкага дома «Звязда» глыбока смуткуюць з прычыны смерці былога супрацоўніка часопіса «Вожык», журналіста, пісьменніка, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны Васіля Фаміча МАЕЎСКАГА і выказваюць шчырае спачуванне яго родным і блізкім.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Віцебскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці паэта Аляксандра Фаміча ШПЫРКОВА і выказваюць глыбокія спачуванні яго родным і блізкім.

# Ад дыярыуша да блога

**Адной з самых папулярных форм у сучасным мастацтве слова з'яўляецца дзённік. Нават сярод зацятых скептыкаў у адносінах да падобнага спосабу самавыяўлення знойдуцца тыя, хто хаця б аднойчы звяртаўся да яго ў якасці аўтара або чытача. Ёсць меркаванне, што за час свайго існавання (а гэта каля пяці стагоддзяў) у беларускай літаратурнай прасторы дзённік не толькі змяніў сваё прызначэнне, але і да непазнавальнасці трансфармаваўся. Паспрабуем прасачыць характар яго мадыфікацый.**

**Ганна НОВІК**

Вядома, што дзённік як самастойная форма вылучыўся з летапісаў і хронік, якія, губляючы з цягам часу рысы дзелавога пісьма, «алітаратурваліся». Магчыма, першым такім «пераходным» творам стала крыніца звестак пра аднайменнае мястэчка і гісторыю Усходняй Беларусі — Баркулабаўскі летапіс, дзе датаваным гісторыка-дакументальным дзелавым запісам уласціва пэўная белетрызацыя. Пачынаючы з XVI стагоддзя дыярыушы набываюць папулярнасць у магнацкім асяроддзі (да прыкладу, захаваліся нататкі Ежы і Мікалая Крыштофа Радзівілаў), паколькі менавіта ў гэтыя часы ў Вялікім Княстве Літоўскім пашыраюцца сувязі з заходнімі краінамі, адкуль прыходзяць павевы гуманістычных ідэй — вызваленне ад аскетызму чалавека, усведамленне ім значнасці ўласнага жыццёвага досведу і імкненне асэнсаваць гістарычныя падзеі. Неўзабаве вядзенне дыярыушаў становіцца звыклай з'явай у шляхецкіх сем'ях, якія пераанялі гэтую завядзёнку ад караля і магнатаў. Дзённікі А. Філіповіча, Караля Станіслава І Радзівіла, С. Маскевіча, Б. Маскевіча, Я. А. Храпавіцкага, Я. Цадроўскага, Ю. Будзілы, Я. К. Сапегі, Ф. Еўлашоўскага, С. Незабытоўскага, Я. У. Пачобута-Адляніцкага і многіх іншых адметныя фармальна — у іх прасочваецца цесная сувязь з мемуарамі. Усе яны, за выключэннем запісаў А. Філіповіча і Ф. Еўлашоўскага, напісаны на польскай мове, што было характэрна для тагачаснай культурнай сітуацыі. Нават праваслаўны архіепіскап Мінскі М. Галубовіч у XIX стагоддзі (з 1858 г.) вёў свае запісы на польскай мове.

> *Другі ўздым цікаўнасці да дзённіка ў гісторыі беларускай літаратуры, звязаны з пашырэннем колькасці датаваных запісаў, пачаўся з канца 1980-х гадоў, калі знікла цэнзура і зноў з'явілася магчымасць для вольнага выказвання ўласных думак.*

Эпоха рамантызму з яе засяроджанасцю на ўнутраным свеце асобы стварыла спрыяльную глебу для далейшага развіцця формы дзённіка. Нататкі набываюць больш інтымны і эмацыянальны характар, узмацняецца іх рэфлексійнасць і маналагічнасць. Пераважная большасць аўтараў датаваных нататак XIX стагоддзя трапіла ў няміласць да імперскага ўрада за сваю палітычную дзейнасць: Т. Зан («З выгнання»), Ф. Малеўскі («Турэмны дзённік»), І. Дамейка («Мае падарожжы. Дзённік выгнанніка»), Ф. Рушчыц («Дзённік»). Мовай аўтакамунікацыі застаецца польская, але ў тэкстах часам сустракаюцца фрагменты на нямецкай, рускай і французскай.

Толькі на пачатку XX стагоддзя, калі беларусы атрымалі дазвол на легальны друк у Расійскай імперыі і распачаўся ўздым беларускага нацыянальнага руху, з'яўляюцца першыя дыярыушы, цалкам створаныя на роднай мове. Запісы А. Луцкевіча, П. Бадуновай, М. Мялешкі ахопліваюць значныя падзеі грамадска-палітычнага руху. Адметнымі на гэтым фоне выглядаюць «Лісты з дарогі» Ядвігіна Ш., якія, па сутнасці, з'яўляюцца падарожным дзённікам, значна ўзбагачаным этнаграфічнымі звесткамі. Практычна ўсе аўтары датаваных нататак гэтага перыяду — актыўныя дзеячы культуры з Заходняй Беларусі, якая на той час пасля падзелу краіны на дзве часткі паводле Рыжскай дамовы 1921 г. трапіла пад уладу Польшчы. Аднак неўзабаве пазітыўныя тэндэнцыі развіцця культуры змяніліся рэпрэсіямі, што адбілася і на змесце дзённікаў інтэлігенцыі. Аўтары дзённікаў другой паловы 1920 — 1930 гг. больш засяроджаны на апісаннях прыватнай дзейнасці (запісы каталіцкага святара К. Сваяка за 1907 — 1925 гг. «Дзея маёй мыслі, сэрца і волі», «Каляндарныя нататкі» А. Станкевіча), турэмнага зняволення («Лукішскі дзённік» А. Салагуба, нататкі С. Рак-Міхайлоўскага за 1927 год), развагах пра творчасць (запісы Я. Драздовіча за 1933 — 1937 гг.) — адным словам, акцэнт з грамадскіх праблем пераносіцца на вузкаасабістыя. Што да дзённікаў інтэлігенцыі БССР 1920 — 1930-х гадоў, то яны амаль не дайшлі да нашага часу, паколькі пісаць дыярыушы, як і ўвогуле займацца літаратурай, было небяспечна: перад аўтарамі, калі іх ідэалагічная дзейнасць не адпавядала курсу камуністычнай партыі, паўставала пагроза фізічнага знішчэння. Адным з рэдкіх выключэнняў (ці не адзіным?) з'яўляецца даваенны сшытак І. Шамякіна за 1939 год, калі рэпрэсіі ўжо пайшлі на спад.

Дыярыушы перыяду Вялікай Айчыннай вайны, нягледзячы на «лакальнасць» адлюстраваных у іх падзей, стылістычна адрозныя. Так, у дзённіках Д. Сямёнава за 1943 — 1947 гг. і М. Ганька за 1943 год вымалёўваецца сцісла, але ва ўсіх падрабязнасцях жыццё на акупаванай тэрыторыі; датаваныя нататкі камандзіра партызанскага атрада імя К. Каліноўскага А. Карпюка прысвечаныя актыўнаму змаганню супраць нямецкіх захопнікаў, адсюль іх дынамізм. Дзённікі М. Танка (1941 — 1944), К. Чорнага (1944) і І. Мележа («Першая кніга», 1941 — 1943) выглядаюць на гэтым фоне амаль мастацкімі творамі за кошт шматлікіх рэфлексій і трапных дэталяў. У пасляваенны час гэтаксама не адзначаецца рост колькасці дыярыушаў. І гэта нядзіўна: большасць гіпатэтычных стваральнікаў загінула падчас фашысцкай навалы ці была знішчана яшчэ ў 1930-я гады. Датаваныя запісы ж тых, хто выжыў, адметныя самапаглыбленнем аўтарскай рэфлексіі, маналагічнасцю, суб'ектыўнасцю. Так, у форме споведзі ствараецца дзённік С. Грахоўскага (1975 — 1996), апавядальнасцю і экспрэсіяй вылучаюцца запісы 1962 — 1969 гадоў В. Адамчыка пад назвай «На крыллях смутку і адзіноты», «Запісная кніжка журналіста» Я. Садоўскага лаканічнай тэзіснасцю нагадвае хутчэй нататкі, а аўтабіяграфічная кніга Б. Мікуліча «Аповесць для сябе» з'яўляецца творам-кантамінацыяй, дзе фармальныя прыкметы дзённіка спалучаюцца з элементамі іншых жанраў.




*Знакаміты «Інтымны дзённік» Максіма Багдановіча, які захоўваецца ў Літаратурным музеі М. Багдановіча.*

> *Электронныя дзённікі з'яўляюцца ўвасабленнем не эвалюцыі, але трансфармацыі традыцыйнай формы: асноўныя жанравыя прыкметы захаваліся і ў новым тысячагоддзі, аднак сутнасна змяніліся мэты і функцыі стварэння такіх тэкстаў.*

Другі ўздым цікаўнасці да дзённіка ў гісторыі беларускай літаратуры, звязаны з пашырэннем колькасці датаваных запісаў, пачаўся з канца 1980-х гадоў, калі знікла цэнзура і зноў з'явілася магчымасць для вольнага выказвання ўласных думак. Дзённік набывае ўсё большую папулярнасць, нароўні з малымі жанрамі пакрысе выцясняючы буйную прозу. Прыкладам могуць служыць запісы І. Шамякіна, В. Адамчыка, А. Жука, Н. Гілевіча ды інш.

На мяжы стагоддзяў відавочная белетрызацыя і разнастайнасць тэм дазваляюць чытачу выбраць для азнаямлення дыярыуш на любы густ: грамадска-дзелавы («Дзённікі» С. Яновіча) і так званы дзённік літаратурнага жыцця («Лісты абляцелыя» А. Жука) — для аматараў дакументальнай прозы; дзённік-«творчая лабараторыя» («Трынаццаць дзён з дзённіка Антона Кудлатага» А. Кудласевіча) зацікавіць не аднаго аматара псіхалогіі; сацыяльна-бытавы («Дні мае, падарункі» К. Цвіркі) парадуе ахвочых смакаваць падрабязнасці жыцця вядомых асоб, а дзённік сінтэтычнага характару («Шпітальны дыярыуш» П. Васючэнкі — сапраўдных гурманаў беларускай літаратуры.

> *Што да дзённікаў інтэлігенцыі БССР 1920 — 1930-х гадоў, то яны амаль не дайшлі да нашага часу, паколькі пісаць дыярыушы, як і ўвогуле займацца літаратурай, было небяспечна: перад аўтарамі, калі іх ідэалагічная дзейнасць не адпавядала курсу камуністычнай партыі, паўставала пагроза фізічнага знішчэння.*

Кардынальна мяняецца форма дзённіка ў XXI стагоддзі. З развіццём інфармацыйных тэхналогій дзённік пераходзіць у электронны фармат, як правіла, увасоблены на інтэрнэт-платформах *ya.ru*, *cetki.com*, *opendiary.com*, *diaryland.com*, *diary.ru*. Улюбёнай пляцоўкай беларускамоўнай інтэлігенцыі стаў *LiveJournal* — у адрозненне ад заходняй аўдыторыі, дзе ў свой час Жывы Часопіс быў папулярны сярод школьнікаў. Варта адзначыць, што імклівае павелічэнне віртуальных дзённікаў абумоўлена перавагамі сеціва над традыцыйнымі, папяровымі, носьбітамі — перадусім дэмакратычнасцю электроннай прасторы, ананімнасцю і інтэрактыўнасцю.

Падобныя да традыцыйных дыярыушаў мэтай стварэння, рэгулярнасцю допісаў, арыентацыяй на цяперашні час, фрагментарнасцю, датаванасцю, перыядычнасцю, электронныя дыярыушы займелі цікавую функцыянальную адметнасць: прызначэнне для камунікацыі. Адпаведна пашырыўся спектр сродкаў для прыцягнення ўвагі. Калі чытацкая рэакцыя на традыцыйныя дзённікі ўзнікае толькі пасля іх публікацыі, г. зн. з пэўнай часавай адлегласці, то электронныя дазваляюць камунікаваць адразу ж пасля з'яўлення таго ці іншага допісу. Прычым зацікаўленасць і шырыня інтэрнэт-аўдыторыі пэўнага аўтара залежыць не толькі ад яго таленту, але і ад актыўнасці, удзелу ў віртуальных дыскусіях, умення падтрымліваць увагу «кантэнтам» (зместам) допісаў. Так, увагай сённяшняй чытацкай аўдыторыі карыстаюцца блогі А. Бязлепкінай (*euga.livejournal.com*), А. Глобуса (*adam_hlobus.livejournal.com*), Г. Кісліцынай (*annahonda.livejournal.com*), У. Лобача (*uladzimer.livejournal.com*), У. Сцяпана (*ul_sciapan. livejournal.com*), В. Гапеева (*vushasti.livejournal.com*), А. Рудака (*kabierac.livejournal.com*), А. Івашчанкі (viershnik. livejournal.com) і інш. На жаль, за апошнія два-тры гады зменшылася актыўнасць такіх цікавых блогераў, як *anka_upala.livejournal.com* (Анка Упала), *ryzhkou.livejournal.com* (В. Рыжкоў), *balachon.livejournal.com* (С. Балаханаў), *naya1982.livejournal.com* (Т. Сівец), *beatnik_kalenda.livejournal.com* (С. Календа), *rubleuskaja.livejournal.com* (Л. Рублеўская), *magdalena_jo_jo.livejournal.com* (Ю. Каляда).

Не меншую ролю ў заваёўванні папулярнасці інтэрнэт-аўдыторыі адыгрывае крэатыўнасць аўтара дзённіка. Некаторыя блогеры, да прыкладу, С. Балаханаў (*mazdzalina.org*), выкарыстоўваюць віртуальную прастору для гульні і містыфікацый, іншыя напаўняюць яе досціпамі (*anka_upala.livejournal.com* — Анка Упала) ці рэкламай (*khadanovich.livejournal.com* — А. Хадановіч, *zmij_vish.livejournal.com* — З. Вішнёў, *vika_trenas.livejournal.com* — В. Трэнас), нехта падкрэслівае індывідуальнасць свайго светабачання мультымедыйнымі матэрыяламі (*uladzimer.livejournal.com* — У. Лобач, *balachon.livejournal.com* — С. Балаханаў, *ryzhkou.livejournal.com* — В. Рыжкоў, *poplavok_a.livejournal.com* — А. Паплаўскі) і інш. І толькі нямногія ствараюць допісы ў блогу для самарэфлексіі — першапачатковай мэты дзённіка як літаратурнай формы. У гэтым сэнсе можна гаварыць, што ў параўнанні з традыцыйным дыярыушам віртуальнаму ўласціва тэндэнцыя да пазбаўлення шчырасці.

Акрамя гэтага, матэрыялы блогаў часцей увасабляюцца ў выглядзе друкаваных выданняў, чым папяровыя дзённікі, якія звычайна публікуюцца аўтарам у сталым узросце і «ўдакладняюць» / замяняюць сабой мемуары. Гэта тлумачыцца магчымасцю пісьменнікаў камунікаваць у блогу з чытачамі і вывучаць іх меркаванні, каб надалей сфарміраваць уяўленне пра актуальнасць асобных допісаў, якія і складуць змест будучай кнігі, а ў інтэрнэт-прасторы выступаюць у якасці своеасаблівых чарнавікоў. Так, на аснове віртуальных дзённікаў выдалі зборнікі ці часопісныя публікацыі У. Лобач («Ulaslovy»), П. Качаткова («Матылі»), В. Гапееў («Армейскі блакнот»), А. Глобус («Блогус»), В. Шніп («Пугачоўскі цырульнік») і інш.

Электронныя дзённікі з'яўляюцца ўвасабленнем не эвалюцыі, але трансфармацыі традыцыйнай формы: асноўныя жанравыя прыкметы захаваліся і ў новым тысячагоддзі, аднак сутнасна змяніліся мэты і функцыі стварэння такіх тэкстаў. Варта адзначыць, што з 2010 — 2011 гг. беларускі сегмент блогасферы, і ў прыватнасці LiveJournal, некалькі страціў папулярнасць, саступіўшы першынство сэрвісу *Instagram* і сацыяльным сеткам. Аднак мікраблогі ў межах апошніх наўрад ці могуць прэтэндаваць на ролю дыярыушаў — праз засілле перапосту значная частка допісаў на гэтых сервісах неарыгінальная. Таму зацятым «дзённікафілам» застаецца чакаць на з'яўленне новай адметнай інтэрнэт-платформы для творчасці ці, узброіўшыся алоўкам, выводзіць усё новыя і новыя даты на паперы.

# Небяспечны смех

«Запіскі Самсона Самасуя» — адзін з самых вясёлых раманаў у сённяшняй школьнай праграме. Аднак у 1929 годзе вясёлы твор мог быць адначасова злавесным. У лісце «Другу працоўных Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну» Андрэй Мрый тлумачыў, што «зусім не хацеў агітаваць супроць новага жыцця, супроць прынцыпаў Савецкай улады. Я хацеў паказаць тыповага выскачку Самасуя, што прабіраецца з мяшчанскіх нізоў да вяршынь Савецкай улады». Але з'явы, якія ў другой палове 20-х гадоў здаваліся абсурдам, непаразуменнем, вартым смеху і выкрыцця, вельмі хутка рабіліся прымальнымі, звыклымі, сістэмнымі — і пацвельвацца з тыповага стала ўжо небяспечным…

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

Вызначальныя рысы «Запісак Самсона Самасуя», напэўна, крыху адмяжоўваюць раман ад сучаснага чытача. У першую чаргу трэба адзначыць выключную палітызаванасць твора: як і большасць тэкстаў тагачаснай прозы, ён вельмі прывязаны да сваёй эпохі, часу, калі змены адбываюцца так імкліва, што трэба неадкладна прыглядзецца, заўважыць, ацаніць. Раман прэзентуецца найперш як сатыра на савецкую рэчаіснасць, хаця выкрываецца ў ім не толькі савецкая, але і агульначалавечая схільнасць да глупства, дэмагогіі, самазахаплення.

Адметнасць «Запісак Самсона Самасуя» — гэта і раблезіянскі здаровы, разняволены смех, стыхія грубаватага народнага гумару, дзе ёсць месца і непрыстойнасцям, і фізіялагічным падрабязнасцям. (Стылявыя асаблівасці твораў А. Мрыя разглядала З. Драздова.) Народ — у асобе найперш мясцовых кіраўнікоў, работнікаў культуры і камсамольцаў — урэшце адчувае сябе гаспадаром і пачынае ладзіць фантастычнае, безагляднае, вясёлае свята, свята свабоды, кахання і самаўпраўства. Моладзь цэлыя дні бавіць на пляжы ля Сіняй рэчкі, будынкі ўпрыгожаны бязглуздымі лозунгамі, але ўжо арганізуюцца грамадскапаказальныя таварыскія суды, і камсамольцы «выкурваюць» з хаты суседа-кулака, каб адкрыць чарговую камуну. Усё разам нагадвае «баль у час чумы», і заканамерна, што пісьменнік настойліва звяртаецца да супрацьпастаўлення, гіпербалы, гратэску, парадоксу — прыёмаў, традыцыйна звязаных не толькі з сатырычнай літаратурай, але і з мастацтвам эпохі Барока.

Ужо ў першых нарысах і апавяданнях А. Мрыя савецкая рэчаіснасць паўстае стракатай, шумлівай, ускаламучанай. Усё дынамічна: ездзяць, склікаюць нарады, выступаюць, знаёмяцца. Знаходзіцца месца і прафесару акультных навук — прайдзісвету з Чартапханска, і правільнаму карэспандэнту газеты «Тварам да вёскі», і настаўніцы Крутарожкавай, якая «ніводнага фэсту, кірмашу не прапускала і лічыла, што ў гэтым яе грамадзянская праца». Мясцовыя кіраўнікі блытаюць гандлёвы план з кааператыўным, салідны т. Шмыцік «валочыцца за ўсімі пышнёхамі», філосаф Перапечка ні ў чым не разбіраецца, але выяўляе надзвычайную самаўпэўненасць. «Запіскі Самсона Самасуя» выглядаюць у кантэксце творчасці А. Мрыя цалкам арганічна: пісьменнік хутка знайшоў свой ракурс, яму засталося толькі аб'яднаць, абагульніць, стварыць найбольш прынаднага для сябе героя. Таму ў рамане і ранейшых апавяданнях багата агульных месцаў: яшчэ да «Запісак…» пісьменнік прыдумаў святога Лынду і Суклету Самец, пісаў пра дзяўчыну як пра пісьляня, якое вельмі хочацца гладзіць, і абвяшчаў, што «усё пройдзе, а мы застанемся».

З герояў іншых беларускіх пісьменнікаў Самсон Самасуй найбольш падобны да Мацея Мышкі («Віленскія камунары» М. Гарэцкага), а ў творах самога А. Мрыя — да філосафа Перапечкі. Самасуй маладзейшы, больш дзейсны і авантурны, але гэтаксама слаба разбіраецца ў прадмеце шматлікіх спрэчак, дакладаў і абмеркаванняў. Недасведчанасць кампенсуецца самалюбствам, катэгарычнасцю і безапеляцыйнасцю тону. Галоўны герой непаслядоўны і супярэчлівы: ён захапляецца малюнкам вясны, цэніць дасціпныя прыказкі Торбы, адзначае прыгажосць, розум, спагаду, дабрыню іншых, але не здатны ацэньваць сябе і свае ўчынкі ў катэгорыях этыкі і эстэтыкі. Дзе Самсон Самасуй набраўся разумных слоў і савецкіх штампаў, чаму ставіцца да сябе са сляпым захапленнем, адкуль узялася ягоная несумленнасць? Адказы на гэтыя пытанні засталіся за скруткамі рамана: Самасуй — «гатовы прадукт», яго развіццё даўно завершанае, а «пра мінулае маўчу». Зрэшты, форма аповеду не вельмі прынадная для раскрыцця праблемы генезісу. Затое шырокая кампетэнтнасць героя дазваляе каменціраваць самыя розныя сферы жыцця: Самасуй прапануе праз міліцыю кантраляваць тых, хто «запісвае стары быт», сяляне ў супрацьвагу пустому балбатанню скардзяцца на канкрэтныя праблемы, чытач даведваецца, куды знікае з кааператываў «уся чырвоная мануфактура» — са зніжкай 75%!

Калі б у апублікаваных частках рамана ў супрацьвагу Самсону Самасую знайшоўся хоць адзін станоўчы, узорны герой (накшталт камунара Яўмена ці самаадданай савецкай лекаркі з ранейшых апавяданняў), калі б гэты герой выкрыў Самасуя, узяўся яго перавыхоўваць, тады «Запіскі…» атрымаліся б значна менш рызыкоўнымі. Але побач з Самасуем — у асяроддзі камсамольцаў ці перадавой мясцовай інтэлігенцыі — такога героя няма, і нават старшыня т. Сом, ад слоў якога «пахне жытам, полем, непарушнай моцу'ю лясоў і сенажацяў», пачынае гуляць з Крэйнай, хоць мае сваю сям'ю. Адзіныя персанажы, якія выклікаюць павагу, — вяскоўцы, наведвальнікі самасуеўскіх сходаў. Яны крытычна ўспрымаюць «грамахвонныя» прамовы загадчыка культаддзела («Самая дрэнная рэч, калі розуму мала ды калі жыта засееш, а яно не зародзіць!»), але гэта героі эпізадычныя ды беспартыйныя… Галоўнае ж, што ў выніку Самасуй замест дыскваліфікацыі атрымлівае павышэнне: яго бяруць «на вельмі адказную працу» ў акругу!

Разам з «Запіскамі Самсона Самасуя» прыкметна вылучаюцца апавяданні А. Мрыя ўзвышэнскага перыяду, напісаныя тонка і лаканічна. Тут усё не так ярка і рэзка, пісьменнік не спяшаецца ацэньваць, высмейваць, пастуляваць, а вобразы рабіна і камандзіра з аднайменных твораў атрымліваюцца аднолькава неадназначнымі. Аўтар адносна талерантна ставіцца да пагляд аў Мардуховіча («Рэлігію нельга разбураць, бо тады будзе страшэнная распуста!»), і падзенне рабіна «ў пекла» ці то дыскрэдытуе яго, ці то вызначаецца сумневамі і стратай веры.

У апавяданні «Камандзір» галоўны герой згадвае адзін з эпізодаў грамадзянскай вайны — два забойствы, здзейсненыя без пільнай неабходнасці. Пісьменнік выяўляе спецыфічнае самаадчуванне чалавека, які робіць злачынствы нібыта ад імя Чырвонай арміі і пралетарскіх мас, ганарыцца зробленым, але адчувае прыкрасць і распачынае расповед з дакладным усведамленнем: «Я і цяпераka, калі што будзе, дык першым у пекла пападу». Рэвалюцыйны запал штурхае да радыкальных, беспадстаўна жорсткіх учынкаў, але на некаторы імгненняў з'яўляюцца няўпэўненасць і здзіўленне: за што забіваць ужо абяззброенага ворага? «Камандзір» выклікае раней заўважаныя даследчыкамі паралелі з «Конарміяй» І. Бабеля, з «Адной партыяй у шашкі» М. Зарэцкага, і характэрна, што гэта апавяданне — адзіны твор чырвонага кулямётчыка Андрэя Шашалевіча, прысвечаны рэвалюцыі.

Такім чынам, унёсак А. Мрыя ў беларускую літаратуру — гэта не толькі знакамітыя «Запіскі Самсона Самасуя», і хто ведае, як бы мы ставіліся да пісьменніка сёння, калі б маглі пагартаць яго раман «Жывы дом» ды іншыя творы, напісаныя ў высылцы…

# Гаспадар зямлі, дзіця прыроды



Паміж дзвюма сустрэчамі — палова чалавечага жыцця, амаль тры дзясяткі гадоў, як і паміж першым ды другім лістамі Леаніда Левановіча. Пасля будуць новыя лісты, а пачалося ўсё ў верасні 1982 года.

У Жабінку Брэсцкай вобласці па лініі Бюро прапаганды літаратуры з Мінска прыехалі паэт Хведар Чэрня і празаік Леанід Левановіч. Апошнім часам наш горад вельмі змяніўся, а тады побач з чыгуначнай станцыяй размяшчалася гасцініца — невялічкі драўляны будынак. У ім і пасялілі пісьменнікаў.

Мне выпала прысутнічаць на іх выступленнях. Калектыў райбыткамбіната, напрыклад, у асноўным жаночы, і Хведар Чэрня поруч з лірычнымі вершамі ахвотна чытаў і гумарыстычныя — пра ўзаемаадносіны мужа і жонкі, бачыў на тварах радасныя ўсмешкі, чуў словы ўхвалення і дружныя апладысменты.

Левановіч надрукаваў некалькі празаічных кніг. Першая — «Гаспадар зямлі» — выйшла, як жартуе Леанід Кірэевіч, «яшчэ пад «дзявочым» прозвішчам — Лявонаў». На вокладках наступных стаяла ўжо «Левановіч». Вельмі цёпла, прыхільна прынята чытачамі і крытыкай кніга «Якар надзеі», яна мела 9 станоўчых водгукаў. «Менавіта пра «Якар надзеі», — напісаў Леанід Кірэевіч у лісце 5 ліпеня 2011 года, — я тады найбольш гаварыў на сустрэчах з чытачамі ў Жабінцы. І цяпер памятаю, як цёпла нас прымалі».

Мы запрасілі пісьменнікаў у рэдакцыю раённай газеты «Сельская праўда». Хведар Чэрня адабраў для літаратурнай старонкі «Плынь» некалькі вершаў, а як быць з празаікам? Я прапанаваў Леаніду Кірэевічу даць для газеты невялічкае інтэрв'ю, і ён згадзіўся адказаць на мае пытанні.

Асабліва запомніліся яго словы пра народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа. «Мележ для мяне, — гаварыў мой суразмоўца, — нібыта другі хросны бацька. Маё сапраўднае прозвішча — Лявонаў. Калі я пачынаў пісаць, у рускай літаратуры было шырока вядомае імя лаўрэата Ленінскай прэміі, аўтара рамана «Рускі лес» Леаніда Лявонава. Я палічыў, што два Леаніды Лявонавы ў літаратуры занадта, і стаў выбіраць сабе псеўданім. «А што тут думаць?! Левановіч. Хароша беларускае прозвішча», — сказаў Мележ. Я стаў пярэчыць, што ў беларускай літаратуры быў Павел Левановіч, які загінуў на фронце. «Вось і не можа наша літаратура заставацца без Левановіча», — усміхнуўся Іван Паўлавіч. Так было падабрана для мяне літаратурнае імя».

Выступіўшы, пісьменнікі паехалі ў сталіцу, а праз некалькі дзён Левановіч пазваніў у Жабінку. Ён, як аказалася, у гасцініцы забыў спартыўны касцюм, прасіў мяне знайсці і выслаць. Да таго часу ў «Сельскай праўдзе» было надрукавана яго інтэрв'ю, і я разам з касцюмам паслаў яго ў Мінск.

Неўзабаве атрымаў ліст са словамі ўдзячнасці за клопаты, а ў 2011 годзе ў лісце Леанід Кірэевіч прызнаецца: «Гэта было маё першае інтэрв'ю ў друку. Потым мне даводзілася не раз даваць інтэрв'ю для «ЛіМа», «Рэспублікі», «Белорусской нивы», іншых выданняў, але ніколі не забуду сваё першае інтэрв'ю».

Амаль трыццаць гадоў мы не бачыліся. 2011-ы быў юбілейны для Васіля Віткі — аднаго з маіх творчых настаўнікаў, які разгледзеў ува мне дзіцячага пісьменніка-казачніка і ўвёў у школьныя падручнікі казку «Зайцаў кажушок». Да 100-годдзя любімага пісьменніка я напісаў эсэ пра Вітку.

Пасля выхаду «ЛіМа» з публікацыяй «Мудрасць і шчодрасць душы» нечакана атрымаў бандэроль ад Левановіча. У ёй — новы раман «Палыновы вецер» і ліст. Мой старэйшы сябар, вібітны пісьменнік быў задаволены, што 100-гадовы юбілей Віткі адзначылі на дзяржаўным узроўні.

«Палыновы вецер» — шосты раман Л. Левановіча, звязаны з папярэднімі тымі самымі героямі і месцам дзеяння. Памятаю, што ў час таго прыезду ў Жабінку Леанід Кірэевіч распавядаў і пра нядаўна закончаны раман «Шчыглы», прысвечаны пасляваеннаму дзяцінству.

Свежы раман «Палыновы вецер» ахоплівае падзеі ад чарнобыльскай аварыі і да распаду Савецкага Саюза. Аўтар піша з вялікім болем, бо родная вёска пісьменніка Клеявічы на Магілёўшчыне аказалася настолькі забруджанай, што людзей адсялілі.

У лісце ён выказаў надзею на сустрэчу на маючым адбыцца пісьменніцкім з'ездзе. І сапраўды, у магілаўным натоўпе мы адшукалі адзін аднаго. Леанід Кірэевіч расказаў пра сябе. Калі мы размаўлялі, падышоў Васіль Шырко і абняў Леаніда Кірэевіча за плечы.

— Гэта мой лепшы рэдактар, — аб'явіў Шырко і патлумачыў: — Калі я працаваў у галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання пад кіраўніцтвам Левановіча, дык заробкі былі невялікія, але Леанід Кірэевіч умеў дамовіцца з начальствам, каб нам выпісалі прэміі. Адчуваючы клопат, мы стараліся рабіць перадачы змястоўнымі і цікавымі…

Чалавек — дзіця прыроды, і жыць ён павінен у суладдзі з ёй, лічыць Левановіч. Больш як дваццаць гадоў таму ён набыў сабе хату ў вёсцы Пятрылава Вілейскага раёна. Спачатку гэта было лецішча, а з 1992 года сям'я перабралася жыць стала, завяла гаспадарку. Цяпер у сваіх лістах Леанід Кірэевіч часта дзеліцца вясковымі клопатамі.

Напярэдадні 75-годдзя пісьменніка хочацца пажадаць яму жыццёвага і творчага даўгалецця, каб новыя яго кнігі радавалі чытача, а душа жыла сугучна з Зямлёй-матухнай, з прыродай!

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

Споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння Ігара Грыгор'ева, выдатнага творцы, якога літаратурныя крытыкі называюць паэтам «апошняй вёскі», характарызуючы яго лепшыя вершы як «жамчужыны рускай паэзіі». Ігар Грыгор'еў бясконца любіў Расію і Беларусь, быў звязаны з імі шматлікімі жыццёвымі шляхамі. Беларусы ж яшчэ толькі пачынаюць адкрываць для сябе яго творы, «заўсёды чалавечныя і таму заўсёды далёкія ад халоднага розуму і пустога сэрца».

**Наталля САВЕТНАЯ**

## Ігар ГРЫГОР'ЕЎ



***

*Добры дзень вам, пустыні лясныя,*
*Шэрай вольхі плакучы разбой!*
*Прывітанне, палын жаўтакрылы!*
*Мне ніколькі не горка з табой.*

*Хоць на выгляд трава не з квятлівых*
*І не можа прывабіць нічым,*
*Дык чаму ж так прыемна-ічымліва*
*Мне заснуць на сяброўскім плячы.*

*І ні крыўды на сэрцы, ні болю,*
*А святло — ад зямлі да нябёс.*
*Мы даўно не страчаліся, Поле,*
*Не гукаліся, Лес мой — мой лёс!*

*Ты дубы санцакрылыя промніш,*
*Мкнешся ў неба — свой высіш парыў.*
*Ты мяне панявлі не помніш,*
*Я па волі цябе не забыў.*

*Будзе ўсякае — радасць і гора —*
*У нашых лёсах, такіх гаравых.*
*Нас прагоняць, яшчэ й абгавораць,*
*Нас адрынуць ад зор заравых.*

*Нас забудуць, закінуць, згундосяць,*
*Нас бязлітасным спаляць агнём*
*І жалезнай сякераю скосяць…*
*Толькі мы ўсё адно не памром.*

*Як бы хто ні глуміў азвярэла,*
*Ні імкнуўся нас брудам абліць, —*
*Карані нашы ў глебе зрыжэлай*
*Ніякому агню не спаліць.*

*Мы даўно не страчаліся, Поле,*
*Не гукаліся, Лес мой — мой лёс!*
*Ані крыўды на сэрцы, ні болю,*
*А святло — ад зямлі да нябёс.*

***

*Мой бедны яр, мой ціхі лес*
*За цемры зломам*
*Не станучь, як бы я не змерз,*
*Халодным домам.*

*І хоць лістоў змяло красу —*
*Адгаманілі, —*
*Травы зялёна-светлы сум*
*Як выклікліўням.*

*Ніколі мне (хоць і бяда*
*Нагоніць буру)*
*Не стане стылая вада*
*Гадзючай скурай.*

*Няхай балота на вятрах*
*Шыпіць, віецца,*
*Калі не ў рань — па вечарах*
*Зара пральецца.*

*І пацяплеюць халады,*
*І растуманіць.*
*І той бяды, і той бяды,*
*Што сябра зманіць.*

## Ліст каханай

*Спяваеш песні новыя цяпер,*
*Па-новаму смяешся і сумуеш.*
*Ты ў горадзе між модніц каралюеш,*
*А я ўсё тут,*
*Такі ж, як быў, павер.*

*Ару ды сею, з мужыкамі п'ю,*
*Зусім адвык ад гарадскога быту.*
*Мінулых дзён прыгадваю брую —*
*Тых светлых дзён,*
*Што просяцца з нябыту.*

*У нас — дай бог!*
*Не млявіць гарачынь,*
*Праз тыдзень-два — лясы завераснёўяць.*
*Для новых вершаў шмат ужо прычын,*
*Ды што табе акрыленая споведзь!*

*А я сябе дык вершамі б лячыў!..*
*Чакаю*
*Ці то грошай, ці то славы.*
*Мне кажаш ты: «Пегас не па плячы»,*
*Што дурань я, нібыта бот дзіравы…*

*Кажы, што хочаш. Бог жа не глухі.*
*Ты любіш жыць надзейна,*
*Я — надзеяй.*
*Душу суцеш ты прозай мяккацелай —*
*У нас з табою розныя шляхі.*

*Па мне, павер, зарана шчэ тужыць,*
*Пакуль святло з-за хмар*
*так вольна льецца.*
*Я не адзін,*
*Мне ёсць што пець, кім жыць:*
*Каханая — каханай застаецца.*

## Вішанька

**Святлане Молевай**

*Траўнем цёплым зусім не сагрэтая?*
*Без вясельнай, без белай фаты?*
*Што сумуеш ты, вішанька ветлая,*
*Што ў самоце*
*сумелася ты?*

*А сяброўкі твае белаквецяцца*
*І трымцяць-шамацяць на зары.*
*Ты адна палымнееш нявесела,*
*Быццам белы пажар на гары.*

*Ўсё жадаеш ты ветру цяплейшага,*
*Сум з-пад броваў ліецца-бяжыць.*
*Мо чакаеш каго нетутэйшага?*
*Сухавею не можаш забыць?*

*Добра ведаю: мне не даверышся*
*І сваю не падорыш красу.*
*Ды люблю ля высокага берага*
*У чыстым полымі выліць свой сум!*

*Палымнее над дахамі вышнімі*
*Сумны твар, ды святлее наўгрунь…*
*На маю ненаглядную Вішаньку*
*Ты падобнае, дрэўца-гарун.*

## Першае каханне

На то она и первая любовь,
Чтобы за нею вслед пришла вторая.

**Ю. Г.**

*А каханне першае —*
*Адно.*
*Яркае,*
*Высокае яно,*
*Нібы ў цемры месяц залаты:*
*Сам сябе не бачыць —*
*Бачыш ты.*

*Шчодрае і добрае*
*Яно,*
*Нібы чарадзейнае віно.*
*А калі камусь не да віна,*
*То, паверце, не яго віна.*

*Ад яго — выток тваіх дарог,*
*Без яго — скончэнне ўсіх трывог.*
*Бо каханне першае —*
*адно.*
*Помніце:*
*Апошняе яно.*

**Пераклад з рускай Міколы ШАБОВІЧА**



Фота Кастуся Дробава

## Ірына ТУЛУПАВА



***

*Два папугайчыкі*
*Вышытыя крыжыкам*
*На палатне*
*Спыняюць позірк*
*Дзіцяці*
*Замежнага госця*
*Тынэйджара*
*Прафесара*
*Кожны шукае свой крыж*
*У агульнай канве*
*Творцы*

***

*Згрызоты*
*Здранцвенне*
*Згадкі*
*Змрок*

*Супольнасць*
*Супраца*
*Сувымярэнне*

*Сугучча*
*Беларускага*
*Поўнагалосся*

***

*Цагляныя дамы*
*Пафарбавалі колерам*
*Замежная тынкоўка*
*На айчыннай аснове*
*Усё трывушчае*
*Пакуль ёсць Айчына*

***

*Маўчу*
*Таропка прабягаюць*
*Мінакі*
*Спыняюцца*
*Недаўмёна паварочваюцца*
*Перапытваюць*
*Што?*
*Гучна думаю*
*Трэба цішэй*
*Але як?!*

***

*Дзявочыя спаднічкі-трапецыі*
*Трымцяць ад ветру*
*Як лісце*
*Пірамідальнай таполі*
*Трапечуцца*
*Паміж мінулым і будучым*
*Ды ніколі не сагнуцца*
*Як галінкі*
*Іх уладальніцы:*
*Новы маладзёжны фармат*

***

*Дакрануцца да гліны*
*Дадаць да яе жывілнай вады*
*Вырабіць зручны гарлачык*
*Каб пасля*
*Піць і наталяцца*
*І зноў шукаць гліну…*

## Дэбют

## Андрэй КОЗЕЛ



## Збавенне

*Я заблукаў пасярод ачарсцвення*
*Ў лесе памылак свайго пакалення.*
*Дзверы, магчыма, яшчэ і адкрыты?*
*Згублены ключ і дарогі разбіты.*

*Колькі нароблена злога, пустога?!*
*Вецер шуміць, падступае знямога.*
*Пэўна, чакае бацькоў пакаленне*
*Нашага росквіту і ўзнясення.*

*Нас жа даймае даўно гэта скруха —*
*Нехта нядобрае шэпча на вуха.*
*Дзе яно, выйсце, вядома:*
*У роднай краіне, ля роднага дома!*

*Мы ж забрылі, забадзяліся ў лесе —*
*Нас там сурочылі лоймы з прадвесня.*
*Вось і хаджу пасярод ачарсцвення.*
*Што я чакаю? Ад самоты збавення!*

## Акуляры

*Якое малое дзяўчо!*
*Усім пасміхаецца...*
*Яно верыць:*
*людзі —*
*толькі добрыя,*
*зла не існуе;*
*вакол —*
*родныя, сябры, сонца, —*
*якія прыгожыя*
*ружовыя акуляры!*
*Як шкада!...*
*Аднойчы яны трэснуць,*
*пакрыюцца расколінамі,*
*рассыплюцца на драбніцы,*
*адкрываючы рэальнасць...*



Васіль ТКАЧОЎ

# Выскачка

*Апавяданне*

У бальнічнай палаце іх было чатыры: Пятроўна, прывабная жанчына, якая не хавала свайго ўзросту, а, здаецца, наадварот не без гонару ў голасе падкрэслівала, што мае семдзесят два гады, і раз-пораз нагадвала — трэба гэта ці не — што яе муж — падпалкоўнік у адстаўцы і ім выпала за гонар служыць на вядомым касмадроме Байканур; некалі прыгожая бландзінка Валянціна, хоць і цяпер яшчэ ніштаватая кабета, жонка былога дзяржслужачага, дзесяць год як на пенсіі, больш чытала бліщчастыя кнігі пра каханне і маўчала; Анжэла, напалову маладзейшая за першых дзвюх суседак, невядома якой нацыянальнасці, было ў яе аблічы нешта ад Каўказа, пра сябе нічога не гаварыла наогул, больш бавіла час з сяброўкамі з іншых палат, бо з тымі, як высветлілася пазней, знайшла агульны інтарэс: курылі на двары ці дзе там, але з яе вяртаннем у палату адчуваўся заўсёды моцны пах тытуню; і вясковая бабулька Стаханаўна, яна крыху недачувала і ўвесь час бедавала, што яе дзед не справіцца адзін з хатняй гаспадаркай.

Кожная з жанчын займалася нечым сваім: акуратна хадзілі на працэдуры, прымалі таблеткі, абмяркоўвалі пададзеныя ў сталоўцы стравы. Іншы раз нехта з іх скупа распавядаў пра сваё жыццё. Так і марнаваліся ў палаце яны некалькі дзён. Аднак ідылія тут панавала да таго часу, пакуль не з'явілася на парозе адна мажная асоба, з пакункам і сумкай цераз плячо, з густа пафарбаванымі чырвонай памадай вуснамі. Яна знерухомела ў парозе, а калі адшукала вачыма незаняты ложак, што быў акуратна засцелены санітаркай колькі дзён таму пасля папраўкі нічым не прыкметнай гараджанкі сярэдняга веку, плюхнулася на яго, цяжка ўздыхнула, парыпела спружынамі і гучна паведаміла:

— Я — Таццяна Сцяпанаўна Шабункова! Двойчы не паўтараю! Запомніце! Зараз я ўладкуюся, і мы пазнаёмімся бліжэй.

Жанчыны спярша прынялі яе словы за жарт, можа, не зусім удалы і не да месца, але чым больш Шабункова гаспадарыла ў палаце, тым менш яны разумелі, што за чалавек падсяліўся да іх. Была гэтая Шабункова жанчына прыкладна такога ж узросту, як Валянціна, круглатварая, пульхнаватая, з кароткімі нагамі, але на дзіва рухавая: паспявай толькі сачыць — за якое імгненне яна абшнарыла ўсю палату, што можна было, памацала рукамі, да ўсяго прымерылася вачыма.

— Бабы, толькі прызнавайцеся: хто да мяне ляжаў на гэтым ложку? — выкладваючы ў тумбачку прынесеныя з дому рэчы, глядзела навенькая на жанчын, але, калі нічога не пачула ў адказ, зноў працягвала: — Можа, нябожчыца? Ці не? А то раз было, паклалі мяне на ложак… не ў гэтай лякарні, праўда, а потым даведваюся, што там толькі што ляжала памерлая. Агідна. Брыдка. Верыце? Я, канечне, адразу ж папрасілася ў іншую палату: пераводзьце — і ніякіх размоў! Тэму закрываем раз і назаўсёды! Мне такое не трэба. Як гэта так даўмецца — класці на ложак, дзе толькі што ляжала мёртвая!.. Вы за каго мяне прымаеце?

Пятроўна варухнулася ў ложку, той злёгку рыпнуў, і яна ціха, з непрыхаваным сумам заўважыла навенькай:

— Усе жывуць і калі-небудзь паміраюць. І на ложках таксама. Ці ў бальніцы, ці дома. Мы ўсе не вечныя.

— Дзякуй, а то я не ведала, — адразу ж знайшла што адказаць Шабункова. — Канечне, усе там будзем, але не станем паспяшаць час. Што Бог дасць, тое і прымем. Ну, з каго пачнём? Давайце, давайце знаёміцца, галубкі мае! — яна ўжо стаяла пасярод пакоя і па чарзе глядзела на жанчын, падбадзёрваючы тых рукамі. — Бачу, смелых няма?

Чацвёрцы пастаяльцаў гэтай палаты Шабункова адразу ж не спадабалася, таму кожная з жанчын старалася не паказваць сваёй прыхільнасці да яе і рабіла выгляд, што наогул абыякавая да яе нейкай занадта ўжо агрэсіўнай і навязлівай актыўнасці, ці, можа, нават сказаць працсей — да яе фанабэрыі. Але як бы там ні было, жанчыны па чарзе назваліся. Калі Шабункова паглядзела на Стаханаўну, тая толькі разявіла рот:

— А? Што? — і махнула рукой: маўляў, не ведаю, пра што ты, дзеўка, гамоніш.

— Яна недачувае, — падказала Валянціна — больш для таго, каб не надакучала хоць старой.

Шабункова ўсміхнулася, сур'ёзна заявіла:

— Няма такіх людзей, каб мяне не пачулі! Потым разбяромся мы і з бабулькай. Так, бабуля? Я правільна кажу?

— А? Што?

Новенькая зразумела, што ад Стаханаўны і сапраўды мала карысці, жанчыны праўду гавораць, таму надзьмула шчокі і паглядзела па баках, быццам не ведаючы, чым заняцца далей. Аднак тут жа ўспомніла:

— Фу-у, ну дзе там наш доктар? Колькі можна чакаць? — і яна зноў гопнулася на ложак, дастала касметычку і пачала прыхарошвацца. — Паколькі ён мужчынскага роду і прывабны на выгляд, трэба сустрэць яго як след. Не, дзеці мае, так справа не пойдзе. Назіраю разлад і поўную неарганізаванасць у жыцці нашай маленькай ячэйкі. Што будзем рабіць? Зразумела што — ухіляць, любымі сродкамі ўхіляць гэтую прынцыповую сацыяльную несправядлівасць. Таму слухайце мяне. Са мной не прападзеце. Палату нашу вядзе, значыць, Сяргей Рамуальдавіч. Я ведаю гэтага чалавека… А як ён вам?

— Добры доктар, уважлівы… — няпэўна прамовіла Анжэла, якая толькі што вярнулася з двара і ўнесла ў палату з сабой прыкры пах тытуню.

Нюхнуўшы яго, Шабункова зморшчылася, а потым затуліла рукой рот, бесцырымонна ўзяла Анжэлу за каўнер і выштурхнула з палаты.

— Вон! — сказала. — Праветрышся, тады заходзь! Тут бальніца, а не прыбіральня.

Вось тут жанчыны апынуліся на баку Шабунковай, але ўголас ніхто з іх не выказаўся. Усе, мусіць, чакалі, што будзе далей. Анжэла не збіралася здавацца: яна адразу ж, як толькі ачомалася за дзвярыма, прарвалася ў палату і пайшла ў наступ на новенькую:

— Не распускай рукі, сказала! Мне адно слова замовіць Рафіку, і ён сатрэ цябе ў парашок! Ведай, з кім!..

Шабункова на дзіва спакойна паглядзела на Анжэлу і таксама спакойна прамовіла:

— А што… а што здарылася, прыгажуня?

— Нічога!

— Тады праходзь, сядай. Ты таксама мне будзеш патрэбна.

Анжэла шмыгнула носам і моўчкі села на табурэцік, прыстаўлены да яе ложка. Шабункова паглядзела на яе, перапытала:

— Значыць, кажаш, доктар добры і ўважлівы.

— Ну, я так і сказала, — Анжэла кашлянула ў кулачок.

— А мы зробім так, што ён будзе яшчэ больш добрым і ўважлівым, — Шабункова абвяла прыцягальным позіркам жанчын, — Так, сяброўкі мае…

— З якога гэта часу? — хмыкнула Валянціна.

— Увага! Пытанні задаю я! Нас колькі чалавек у палаце? Правільна: пяцёра. Калі па сорак тысяч скінемся, атрымліваецца дзвесце тысяч. Ого! Неблагі прэзент, скажу шчыра. Парадуем Сяргея Рамуальдавіча, а, жанкі? Бачу, вы не супраць. Што цяпер тыя сорак тысяч для аднаго чалавека, а вось калі дзвесце для аднаго — гэта, засведчу, ужо нешта. З каго пачнём? Пускаю шапку па крузе. Што гэта я — з каго пачнём? Канечне, з мяне. Сказаў «а» — кажы і «б». — Яна ўзяла з сумачкі грошы, адлічыла, колькі трэба, і, трымаючы дзве паперкі па дваццаць тысяч рублёў на выцягнутай далоні, паднесла руку да Пятроўны.

Пятроўна, на здзіўленне астатніх, пацягнулася да кашалька. Тое ж самае зрабіла і Валянціна. Хоць і не адразу, крыху павагаўшыся, Анжэла адмовілася:

— Мне на цыгаркі трэба.

Шабункова паглядзела ўважлівым позіркам на яе старыя і чорныя ад бруду некалі жоўтыя сланцы, згодна кіўнула:

— Усё зразумела. Ну, а ты, бабуля?

Стаханаўна зрабіла выгляд, што яна наогул не разумее, чаго ад яе хочуць.

— А? Што? — раскавяліла яна шырока рот.

— Гані грошы, бабуля! — на самае вуха гукнула Шабункова. — Для цябе ж стараюся. Падсаладзіць жыццё трэба. Доктар будзе заўсёды спаць і бачыць у сне нашу палату. Яна ў яго будзе на першым плане. Ну, смялей, смялей, бабуся!



Бабулі нічога не заставалася, як здацца: яна падала гэтай настырнай жанчыне ўсе грошы з кашальком:

— Вазьмі сама, колькі трэба. А навошта? Я не п'ю.

— І ніхто не п'е.

— Даехаць пакінь толькі, а то пешшу не дайду — багата кіламетраў да нашых Брусоў.

Шабункова запусціла руку ў кашалёк Стаханаўны, выцягнула даволі тоўсты пук дзяржзнакаў, ацаніла:

— Ого! Ды з такімі грашыма можна і не тут лячыцца! Добра, добра, бабуля, не глядзі так на мяне: лішняга з цябе я не вазьму. Нам чужое не трэба. Тут хоць бы сваё не згубіць.

Анжэла выйшла. Услед за ёй падалася неўзабаве і новенькая. Торкнуўшы ўгору пальцам і падміргнуўшы жанчынам, яна, перш чым пакінуць палату, узнёсла і здаволена мовіла:

— Усё будзе ў ажуры, грамадзяне!

І толькі цяпер, калі зачыніліся за Шабунковай дзверы, Пятроўна і Валянціна моўчкі пераглянуліся. Нібы пасля доўгага здранцвення, жанчыны загаманілі.

— Ой, што гэта з намі? Ці не гіпноз гэта быў? — першай спахапілася Пятроўна. — Навошта мы ёй аддалі грошы? Дзіўна неяк.

— Сапраўды, — пацепвала плечуком Валянціна, звесіўшы ногі з ложка. — Добра, калі яшчэ аддасць доктару. А калі не?..

— Пайдзі правер…

— Можа, аферыстка?

— А што? Забярэ грошы — і канцы ў ваду.

— Ды і калі нават аддасць грошы доктару, то ад каго — ад сябе? Ад нас?

— Нешта не тое мы зрабілі… — зусім прапаў настрой у Пятроўны. — Абула яна нас, абула, бабы-дзеўкі. А ты што, Стаханаўна, скажаш?

— А? Што?

Пятроўна махнула на бабульку рукой: ай, сядзі ўжо!

Нарэшце гнятлівае маўчанне парушыла Валянціна:

— Здаецца, я ведаю яе, гэтую Шабункову? Так, так. Толькі яна была раней Танькай Сцепанцовай. Пераканана. Дакладна, яна! Мы ж у адной школе вучыліся некалі. Яна на год старэйшая за мяне была. Чаму запомнілася? Яна бегала з класа ў клас і па дзве капейкі з кожнага камсамольца ўзносы патрабавала. Так, так: гэта яна, Сцепанцова Таня. Мы яе выскачкай звалі. Яна хацела быць сакратаром школьнай камсамольскай арганізацыі, сама, помню, прасілася: я не падвяду, даверце! А калі ёй адмовілі, яна тады слёзна папрасіла: «Дазвольце хоць мне ўзносы збіраць!» Збірай, бяды тае.

Як склаўся яе лёс далей, Валянціна не ведала.

Вярнулася Шабункова не адна — з доктарам. Яна пырхала перад ім, як матыль перад яркай лямпачкай. Але, што здзівіла жанчын, Сяргей Рамуальдавіч пачаў абход не з яе, а з Пятроўны і нават усяляк старанейся Шабунковай. Што ўскладняла сітуацыю. Кожная з хворых думала, відаць, пра адно — аддала ўсё ж гэтая «зборшчыца камсамольскіх узносаў» грошы яму ці не? Ды і вялікімі дзівачкамі яны палічылі сябе: грошы, калі ўжо так і хацелася ім задобрыць Сяргея Рамуальдавіча, можна было ўручыць і зараз… у палаце. Толькі ці трэба наогул было гэта рабіць? Ну, і ці ж не дурніцы мы?!

У Пятроўны і Валянціны настрой быў гнятлівы. Анжэла была сама па сабе. Толькі адна Стаханаўна шамкала нешта ў роце і думала, відаць, пра свайго дзеда, якому цяжка ў вёсцы аднаму.

І калі ў палаце з'явіўся, нібы прывід, яе прыгорблены стары, з кавенькай і торбачкай, жанчыны забыліся, што ідзе абход і перад доктарам дэфілюе гэтая выскачка Шабункова.

Яны глядзелі на Стаханаўну і яе дзеда, і твары іх свяціліся такой пяшчотай і ласкай, нібы больш важнага нічога сёння не адбылося ва ўсім белым свеце…

# «Ляўкі, спадарочкі, Ляўкі!»

Гродзенскі самадзейны кампазітар Аляксандр Шыдлоўскі — аўтар знакамітай песні «Колькі ў небе зор…». Пад яе і сёння на вясковых вечарынах кружацца ў вальсе юнакі і дзяўчаты. Песня кранае, прыпадымае да нябёс з грэшнай зямлі.

*Колькі ў небе зор, цяжка палічыць,*
*Толькі з іх адна найярчэй гарыць.*

Зорка Янкі Купалы на беларускім небасхіле самая яркая. Несумненна, першай велічыні. Калі я працаваў у адной з ваенных газет Масквы, мой сябра, у будучым вядомы рускі літаратурны крытык, Уладзімір Корабаў папрасіў: «Працытуй колькі лепшых радкоў самага выдатнага паэта Беларусі…» Я, не задумваючыся, пачаў дэкламаваць:

*Паміж пустак, балот беларускай зямлі,*
*На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай*
*Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі,*
*Удзірванелы курган векавечны.*

Я так захапіўся, што прачытаў не некалькі радкоў, а ўсю паэму «Курган», якую вывучыў на памяць яшчэ ў трэцім класе. Купалы перад баямі на фронце, у самым страшным лагеры смерці «Асвенцім». Пасля неаднойчы дэкламаваў гэтую паэму на беларускім тэлебачанні, на вясковых, раённых, абласных сцэнах, у дамах адпачынку.

У 1982 годзе Беларусь адзначала стагоддзе з дня нараджэння Янкі Купалы. У Маскве ў Вялікім тэатры выступалі 600 (!) беларускіх артыстаў. Прысутнічаў міністр культуры СССР Пётр Дзёмічаў, першая жанчына-касманаўт краіны Валянціна Церашкова. З рэжысёрам БТ Міхаілам Ганкіным я меў гонар у якасці рэдактара весці прамую перадачу на Беларусь.

Так ужо здарылася, што за гады работы на тэлебачанні, у рэспубліканскіх газетах і часопісах давялося аб'ехаць удоўж і ўпоперак усю Беларусь. Само сабой, неадночы наведваў літаратурныя музеі Купалы ў Мінску, Вязынцы. А вось у Купалаўскім мемарыяльным запаведніку «Ляўкі» не давялося пабываць ні разу. І калі аднойчы патэлефанаваў першы намеснік старшыні нашага СПБ, мой аднакурснік,





Сказаць, што Корабаў быў уражаны, — нічога не сказаць.

— Гэта ваш беларускі Пушкін ці Шаўчэнка, — вымавіў нарэшце. І ён, скупы на словы, душой не крывіў. Зрэшты, у Нью-Ёрку ў сусветна вядомым Араў-парку бюсты Пушкіна, Шаўчэнкі, Міцкевіча, Купалы побач. Ад кожнай краіны — адзін пісьменнік.

Мой бацька, брыгадзір будаўнічай брыгады саўгаса «Уздзенскі» Аляксандр Аляксандравіч Шырко, які меў фенаменальную памяць, ведаў каля двух дзясяткаў паэм і двухсот вершаў на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах, чытаў «Магілу льва» Янкі выдатны паэт Генадзь Пашкоў і прапанаваў паехаць на свята паэзіі ў Ляўкі, я адразу згадзіўся.

Разам з намі ў дарогу адправіліся пісьменнікі Павел Саковіч, Славамір Антановіч, дактары навук, літаратары, аўтары цікавых кніг Іван Саверчанка і Васіль Дадалка. На Аршанскай зямлі нас гасцінна сустракалі мясцовыя кіраўнікі, старшыня Віцебскай абласной пісьменніцкай арганізацыі паэтэса Тамара Краснова-Гусачэнка, сонечны лірык Алесь Жыгуноў і іншыя віцебскія літаратары. А наперадзе былі Ляўкі.

...Аднойчы дэлегацыю нашых пісьменнікаў украінскія калегі запрасілі на шаўчэнкаўскія святы. Мы ішлі па шырокай і доўгай вясковай вуліцы. Каля кожнага дома — стол, застаўлены неверагоднымі прысмакамі. І на кожным стале — партрэты Тараса Шаўчэнкі. Гасцінныя гаспадары ласкава запрашалі гасцей паласавацца.

«Наўрад ці калі-небудзь такое ўбачыш у нас», — ціха прамовіў паэт Павел Пруднікаў.

Эх, не быў Павел Іванавіч разам з намі ў Ляўках. Гэтак жа гасцінна сустракалі нас ляўкоўцы. Былі сталы, а на сталах — прысмакі, мядовыя наліўкі. Дзумкалі пчолы, спявалі птушкі, і радавалася душа за беларускага песняра, які амаль сем шчаслівых гадоў пражыў у Ляўках. І няхай не напісаў тут другога «Кургана» ці «Паўлінкі», але пакінуў нямала светлых вершаў.

Мы спусkaліся да Дняпра, дзе юныя купалінкі ў прыгожых строях пускалі ў ваду вянкі, мы слухалі выступленні самадзейных артыстаў. Асабліва спадабаліся ўрыўкі з «Паўлінкі»: адначасова вясёлы і важнецкі, з «дурнінкай», пан Быкоўскі, хлопцы, дзяўчаты, гаспадары. Цудоўная мова-жывіца, народныя песні — усё быццам глыток чыстага ляўкоўскага паветра.

Чыталі свае вершы, прысвечаныя Купалу, прыродзе, роднай мове Генадзь Пашкоў, Павел Саковіч, Алесь Жыгуноў, Тамара Краснова-Гусачэнка. Надзвычай цікавым было выступленне доктара філалагічных навук Івана Саверчанкі.

Сустрэчы ў Ляўках пакінулі глыбокі след у душы кожнага з літаратараў. Як не згадаць, з якім замілаваннем, шчырасцю расказваў нам пра Оршу Павел Саковіч. А яго пранікнёны верш пра трагічны і ў той жа час светлы лёс Купалы! Непадробную радасць, замілаванне можна было прачытаць на тварах прысутных. А мне чамусьці згадаліся ўспаміны паэта Паўла Пруднікава.

«Ніхто не мог даўмецца, чаму абраў пад дачу далёкія ад Мінска Ляўкі Іван Дамінікавіч, — гаварыў Пруднікаў. — Аднойчы, будучы ў Мінску, ён запрасіў у Ляўкі маладых паэтаў, у тым ліку мяне. Дарогі не сённяшнія, дабіраліся доўга. Купала быў маўклівым, як ніколі. І толькі напрыканцы паездкі расправіліся маршчыны на яго твары, пасвятлелі вочы: «Ляўкі, спадарочкі, Ляўкі!» — весела прамовіў ён і праз паўхвіліны дадаў: «Цішыня ад роспачы ратуе!»

Атрымаўшы ў 1941 годзе Дзяржаўную прэмію СССР, Янка Купала з жонкай з Ляўкоў адправіўся на Чорнае мора. Быў паэт надзвычай гасцінным чалавекам. За ім пацягнуліся на поўдзень многія. Ад прэміі засталіся рожкі ды ножкі. А хутка пачалася вайна. Праз год вялікага сына беларускага народа не стане. Ён упадзе з вышыні не ў Днепр пад Ляўкамі, а на цвёрды гасцінічны паркет. На другі дзень пасля смерці паэта ў акупіраванай Беларусі пахаваюць яго маці. Яна памрэ, не даведаўшыся пра смерць сына. «Шчаслівая», — скажуць суседзі.

Мне здаецца, і сёння ляўкоўскія дубы, гонкія сосны, хуткаплынны Днепр сумуюць па вялікім сыне нашага народа.

**Васіль ШЫРКО,**
**фота аўтара**

# «Люблю цябе светла»

**Полацкі Музей беларускага кнігадрукавання запрасіў на вечарыну, прысвечаную выдатнаму рускаму творцу Ігару Грыгор'еву.**

**Зоя БУЛАЕВА**

У арганізацыі вечарыны памяці «Люблю цябе светла!», прысвечанай 90-годдзю паэта, узялі ўдзел літаратары літаб'яднання «Наддзвінне», суполкі «Полоцкая ветвь», члены Віцебскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і Санкт-Пецярбургскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі.

Вядучыя вечара Наталля Саветная і Мікалай Балдоўскі распавялі пра жыццё і творчасць паэта-партызана, легендарнага разведчыка, стваральніка і кіраўніка Пскоўскай пісьменніцкай арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі. Заўважым, святкаванне 90-годдзя паэта пачалося менавіта на беларускай зямлі.

У сёлетнім майскім нумары часопіса «Нёман» быў апублікаваны нарыс Наталлі Саветнай «Гарыць завіруха!» пра жыццё і творчасць Ігара Грыгор'ева. Паэтамі-перакладчыкамі Уладзімірам Скарынкіным і Міколам Шабовічам падрыхтаваны да друку ў часопісе «Полымя» і газеце «ЛіМ» вершы І. Грыгор'ева, пераствораныя па-беларуску. Выдатным наваполацкім філолагам, літаратарам Анатолем Бясперстых складзены «Слоўнік эпітэтаў Ігара Грыгор'ева», які выйдзе ў Санкт-Пецярбургу. Ажыццяўляецца яшчэ некалькі сур'ёзных моўных праектаў. Артыкул, прысвечаны мове, эпітэтам І. Грыгор'ева, апублікаваў намеснік дырэктара Нацыянальнага інстытута адукацыі Беларусі, доктар педагагічных навук, філолаг М. Яленскі, артыкул пра неалагізмы І. Грыгор'ева рыхтуе М. Шабовіч.

Падчас вечарыны гучалі песні пецярбургскага кампазітара, акцёра і рэжысёра Віталя Салтыкова і дацэнта Новасібірскага педагагічнага ўніверсітэта Дзмітрыя Вайцюка. Полацкая паэтка Наталля Літвінава прысвяціла юбіляру акраверш, на які кампазітар Галіна Ліфанава напісала і выканала раманс. Успамінамі пра бацьку падзяліўся сын паэта, святар, прафесар, член Санкт-Пецярбургскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі Рыгор Грыгор'еў.

Вечар паэта ў Полацку стаў пачаткам цэлага шэрагу імпрэз, прысвечаных Ігару Грыгор'еву, якія пройдуць у Гарадку, Мінску, Пскове, Новасібірску, Санкт-Пецярбургу. Пісьменніцкая арганізацыя паўночнай сталіцы Расіі плануе аб'явіць у 2014 годзе лірыка-патрыятычны паэтычны конкурс імя Ігара Грыгор'ева, які мусіць стаць рэгулярным.

# Торт для Біблії

У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі адкрылася выстаўка, прысвечаная 450-годдзю Брэсцкай Бібліі. Адзначыць юбілей знакамітага выдання сабраліся прадстаўнікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Прэзідэнцкай бібліятэкі краіны, Нацыянальнага гістарычнага архіва Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі ды іншых устаноў.

Сямейная атмасфера дня нараджэння вытрымлівалася ва ўсім. Быў нават торт са свечкамі, і прынёс яго ў залу не хто іншы, як Мікалай Радзівіл Чорны. Зразумела, не той, які 450 гадоў таму ўдзельнічаў у выданні Бібліі, а той, хто цяпер клапоціцца пра фаліянт, — загадчык аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі Аляксандр Сцефановіч. На працягу ўсёй імпрэзы гучалі шчырыя словы пра выключнасць кнігі для Беларусі і Еўропы, згадвалася яе мінулае.

«Нарадзілася» яна 4 верасня 1563 года ў Брэсце і выйшла тыражом больш як 500 экзэмпляраў. Гэтае выданне стала новым этапам у гісторыі еўрапейскага кнігадрукавання. Ініцыятарам стварэння польскамоўнага перакладу Святога Пісання быў канцлер ВКЛ Мікалай Радзівіл Чорны. Пасля яго смерці некаторыя асобнікі (у тым ліку і прадстаўлены на выстаўцы) трапілі ў Бібліятэку Віленскага евангелісцка-рэфарматарскага сінода. На радзіму Біблія вярнулася зусім нядаўна: яна стала добрым падарункам



на 50-гадовы юбілей ЦНБ НАН Беларусі ад Бібліятэкі імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы. На жаль, некаторыя старонкі не захаваліся, але іх узнавілі ў лічбаванай копіі, таксама прапанаванай наведвальнікам у межах экспазіцыі. Адметна, што на юбілейнай выстаўцы можна не толькі пабачыць Брэсцкую Біблію, але і пазнаёміцца з лёсам кнігі, прачытаць гісторыю яе стварэння і ўпэўніцца ў каштоўнасці гэтага выдання для беларусаў.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ,**
**фота аўтара**

*Паралелі*

# Гульні ў творчы пінг-понг

Як за месяц стварыць 100 ілюстрацый для дзвюх асобных кніг? Як распрацаваць уласны стыль і стаць паспяховым мастаком, вядомым ва ўсёй Еўропе? Дзе шукаць натхненне і ці правільна ўспрымаць афармленне кніг як звычайную індустрыю? На гэтыя і многія іншыя пытанні адказвае Пуньё, вядомы іспанскі мастак. Яго малюнкі можна пабачыць літаральна паўсюль: у папулярных газетах, на сценах кавярняў, футболках, вокладках дыскаў і вучнёўскіх сшыткаў, у кнігах для дзяцей, коміксах.


Фота Karramaro

**— Вы працуеце ў розных сферах: ілюструеце кнігі, газеты, часопісы, малюеце коміксы… Ці адрозніваюцца мастацкія падыходы, якія вы выкарыстоўваеце ў кожнай са сфер?**

— Магчыма, але не думаю, што насамрэч магу ўжываць паняцце «мастацкі падыход» да таго, што раблю. Звычайна я проста выконваю пэўную частку задання, якое ў розных аспектах размяркоўваецца паміж некалькімі асобамі. І гэты ўдзел абмяжоўваецца іншымі ўмовамі: час, грошы, чыёсьці глупства, шматлікія нечаканасці. Вось таму мне больш за ўсё падабаецца працаваць над афармленнем кніг: тут я магу кантраляваць сваю працу, натуральна, у пэўных межах.

**— Вы працуеце над ілюстрацыямі да ўласных кніг, ствараеце мастацкае афармленне да, так бы мовіць, чужых праектаў. Што больш падабаецца?**

— Кожная праца — свой выклік мастаку і патрабуе ад яго рознага кшталту навыкаў. Да прыкладу, калі ты ствараеш уласную кнігу, трэба быць упэўненым у сваіх сілах і здольнасцях. У гэтай працы стараюся быць больш паслядоўным, звяртаць увагу на тое, якія ідэі выказваю і як раблю гэта. З іншага боку, ілюстраванне кніг іншых аўтараў падобнае да гульні без спаборніцтва, як фрысбі, да прыкладу. Ты проста выхопліваеш ідэі ў аўтара, трансфармуеш іх, нешта дадаеш, падкрэсліваеш, нівеліруеш, інтэрпрэтуеш, а потым нібыта «адсылаеш» назад. Гэта як творчы пінг-понг.

**— Ці існуе нейкая кніга, малюнак, комікс, якім вы асабліва ганарыцеся?**

— Яшчэ не. Мне звычайна чамусьці не падабаюцца ўжо рэалізаваныя праекты. Лічу, што гэта звычайная справа, калі чалавек развіваецца. Але тым не менш ёсць кніга, якая мне і цяпер вельмі падабаецца! Гэта *ALFabeto*: кніга-алфавіт, якая цалкам складаецца толькі з малюнкаў. Яна пабачыла свет у выдавецтве *Kalandraka* ў Іспаніі, а праз год дзякуючы швейцарскаму выдавецтву распаўсюджвалася па ўсёй Еўропе. Гэта сумная, але з ноткамі чорнага гумару, гісторыя елкі, якая цягнецца некалькі стагоддзяў.

**— Што ў працэсе стварэння кнігі павінна ісці першым — візуальны вобраз ці тэкст?**

— Думаю, стварэнне ілюстраваных гісторый — не такая ўжо складаная навука. І кожны выпадак — добрая магчымасць зрабіць нешта прыгожае і жывое. Мне падаецца, што мы яшчэ пакуль шмат чаго не вывучылі ці проста забыліся, таму застаюцца рэчы, якія яшчэ можна паспрабаваць. Як я ўжо казаў, лепшы спосаб — пагуляць у творчы пінг-понг.

**— Ці ёсць героі, якіх вы асабліва любіце маляваць?**

— Больш чым героі! Мне падабаецца паўтараць пэўныя вобразы, значкі, але ў новых малюнках яны заўсёды змяняюцца. Да прыкладу, некалькі год таму я маляваў шмат монстраў, капелюшоў, маленькіх парыкоў… Цяпер я ўвесь у птушках, сонечных акулярах, зорачках, гальштуках і веласіпедах. Што будзе потым — не ведаю!

**— У Беларусі кнігі з класічнымі ілюстрацыямі карыстаюцца большай папулярнасцю, чым выданні, што змяшчаюць эксперыментальныя мастацкія праекты. А як у Іспаніі?**

— Думаю, тое самае і ў нас… Ці, магчыма, я не так добра ведаю… Іспанцы не вельмі захапляюцца візуальнай культурай, ды і культурай увогуле. Вельмі складана вывесці іх разуменне па-за нейкія акрэсленыя, звыклыя межы. Ім больш падабаецца віртуознасць, чым смеласць. Сем'і набываюць кнігі не ў кнігарнях, а ў вялікіх гандлёвых цэнтрах ці супермаркетах. Прычым цікавасць да кнігі зніжаецца. Да прыкладу, трыццаць год таму выпуск серыі коміксаў быў бы спынены, калі б продажы склалі менш як 50 тысяч асобнікаў. Сёння комікс, прададзены накладам у 3 тысячы экзэмпляраў, лічыцца паспяховым.

**— У сваім блогу вы часам пішаце: «Я павінен ілюстраваць чатыры кнігі за 60 дзён, больш як 200 ілюстрацый!» Праца ў такім імклівым тэмпе для вас — нармальная рэч?**

— Не! Пры такіх абставінах у мяне няма часу думаць ні пра тое, што я павінен зрабіць, ні пра тое, што я толькі што зрабіў. Усё адбываецца так: бярэш алівак і за секунду малюеш нешта прыгожае на паперы. Справа ў тым, што Іспанія вельмі заклапочаная пытаннямі прадуктыўнасці. Калі запланавана выдаць дзесяць кніг за месяц, то на якасць увагі не звяртаюць. Яна можа быць нават мінімальнай! Мне не падабаецца працаваць у такіх умовах. Ты проста ілюструеш кнігу на працягу тыдня, атрымліваеш грошы — і ўсё. Але гэтая кніга будзе стаяць на паліцы ў бібліятэцы на працягу 10 ці 20 гадоў, натуральна, там будзе пазначана і тваё імя. Але ў заўвагах ніхто не напіша, што мастак аформіў гэтую кнігу за вельмі кароткі час і выкарыстаў толькі 20 працэнтаў сваіх здольнасцей.



Афармленне кнігі сёння — цэлая індустрыя, а паколькі я нарадзіўся ў такі час, то проста павінен адпавядаць патрабаванням і паспяваць своечасова выконваць працу.

**— Што ўвогуле вас натхняе?**

— Што заўгодна! Мне падабаецца атрымліваць натхненне, знаходзячы сутнасць, самае сэрца прадмета ці з'явы. Я проста паглынаю старыя фільмы, карціны, коміксы, гульні, фотаздымкі і мноства кніг. Кнігі — мая любімая крыніца натхнення, бо яны нясуць у сабе велізарную колькасць ідэй. Кнігі — самы просты і дзейсны шлях наладзіць сувязь паміж свядомасцю розных людзей. Назіранне за мінакамі на вуліцы — таксама добрая крыніца новых ідэй. Я гэта называю «кансерваванне вуліцы» і раблю амаль кожны дзень.



**— У такім выпадку кнігі якіх аўтараў вы больш за ўсё любіце чытаць? З чыёй свядомасцю больш прыемна кантактаваць?**

— Я заўсёды адкрываю для сябе новыя імёны і назвы. Цяпер чытаю кнігі, прысвечаныя майму роднаму гораду, Мадрыду канца XIX — пачатку XX ст. Гэта творы Фэліпэ Трыга і Піа Бароя. Апошнім часам люблю асабліва моцна, бо гэтага чалавека натхняў Хэмінгуэй, на яго творчасць уплывалі Талстой і Дастаеўскі. Я люблю яго кнігі, бо гэты аўтар распавядае пра жыццё бедных людзей, пра філасофію, палітыку таго часу. Ён вельмі мудры, песімістычны. Калі чытаеш такія творы, то разумееш, што іспанцы, ці, больш дакладна, жыхары Мадрыда, заўсёды аднолькава сябе паводзілі, шмат год робячы адны і тыя ж памылкі. Таму, напэўна, і цяпер, у складаныя гістарычныя моманты, вельмі цяжка ўсё гэта змяніць. Сярод пісьменнікаў магу назваць імёны, якія змянілі маю свядомасць і нават маё жыццё: Курт Вонегут, Рэй Брэдберы, Руал Даль, Джордж Оруэл, Уільям Бероўз, Эдгар По, Льюіс Кэрал…

**— Каго з мастакоў лічыце настаўнікамі стылю, манеры?**

— Я хутчэй дызайнер, чым мастак. У той час як мае сябры імкнуліся быць як Квенцін Блэйк ці Томі Унгерэр, я думаў пра кацяня *Hello Kitty* і Тыгра Тоні. Пазней я пачаў піць з іншых крыніц, адкрываў для сябе работы Мэры Блэр, Поля Рэнда, Оле Эксел. Эліс і Марціна Провенсэнаў… Але сваімі сапраўднымі настаўнікамі лічу двух амаль забытых іспанскіх ілюстратараў. Гэта Мігель Анхель Пачэка і Хаўер Серана. Яны вялікія прафесіяналы, выдатныя мастакі, добрыя сябры і настаўнікі. Менавіта ў іх я навучыўся ўсяму, што ведаю пра гэтую сферу мастацтва.

**— Што больш важна для ілюстратара: здольнасць працаваць у розных стылях ці мець уласны творчы, мастацкі почырк?**

— Для таго, каб трапіць на сусветны рынак, мастаку важней мець уласны творчы почырк. Тады будуць шукаць менавіта цябе, каб пабачыць у сваім праекце малюнкі, выкананыя ў тваім стылі. Але ў Іспаніі мастакам мала плацяць, таму яны вымушаныя працаваць у межах уласнай манеры. Каб неяк выжыць і развівацца, я распрацаваў для сябе цэлы каталог стыляў і ў сваёй краіне маю нечаканы поспех. Але з цягам часу мне становіцца ўсё складаней атрымліваць працу ў міжнародных праектах.

Марына ВЕСЯЛУХА

# Калі глядзець на свет... сэрцам

У беларускую сталіцу не так даўно завітала шаноўная госця з Францыі — дзіцячая пісьменніца-казачніца Мішэль Піа-Банэ. Сустрэча з аўтарам многіх кніг казак прайшла ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Гэтае месца было абрана госцяй не выпадкова. Спадарыня Мішэль ужо была ў Мінску два гады таму, і менавіта тут адбылася адна з першых яе сустрэч з нашымі чытачамі. Не дзіўна і тое, што сёлетняя імпрэза прайшла ў форме цёплай сяброўскай гутаркі за гарбатай.



Мішэль Піа-Банэ — чалавек актыўны і надзвычай энергічны. Яна піша казкі, ладзіць чытацкія канферэнцыі, наведвае дамы састарэлых, школы, дзе паказвае спектаклі па матывах уласных кніг. Свой пісьменніцкі поспех вымярае не колькасцю прададзеных кніг, а лікам новых прыхільнікаў: «лепшы водгук ад чытачоў — калі яны прыходзяць у кнігарню па мае новыя кнігі».

Падчас імпрэзы ў Мінску госці маглі крыху адпачыць (Мішэль падарожнічала на аўтамабілі разам з мужам, цёткай, а таксама сваёй сяброўкай і перакладчыцай з Мазыра Таццянай Данільчанка), а слухачы атрымалі магчымасць у нефармальнай абстаноўцы задаць пытанні французскай пісьменніцы. Атрымалася амаль сямейная гутарка за сталом, у якасці ж гаспадара і мадэратара размовы выступіў дырэктар Прэзідэнцкай бібліятэкі краіны Сяргей Квачан, які задаў першае пытанне госці.

**— Спадарыня Мішэль, вы не былі ў Мінску амаль два гады. Што змянілася ў горадзе за гэты час?**

— Горад вельмі вырас, ён становіцца проста агромністым. Усё, што будуецца ў Мінску цяпер, — проста грандыёзныя праекты.

**— Вы працуеце ў розных сферах. Апроч напісання казак займаецеся запісам успамінаў удзельнікаў Другой Сусветнай вайны, выданнем спецыяльных інфармацыйных бюлетэняў. Над чым прасцей за ўсё працаваць?**

— Канечне, маё прызванне — гэта казка. У мяне асаблівае адчуванне свету, я бачу шмат прыгожага. Гляджу на свет не толькі вачыма, але і сэрцам. У маіх казках многа выдуманага, некалькі ўрокаў маралі, некалькі парад. Калі я пачала пісаць кнігі, то нібыта і сама пасталела. Цяпер я разумею, што ў маіх казках ёсць і нейкая жыццёвая мудрасць, філасофія.

**— Над чым працуеце цяпер?**

— У наступную кнігу, якая хутка пабачыць свет, увайшло 48 калядных казак. Яны не толькі для дзяцей. На першай старонцы выдання будзе адзначана: «Для чытачоў ва ўзросце ад 4 да 104 год». Чаму так? Гэта зусім не выпадкова. Неяк зімой мы з мужам глядзелі нацыянальнае тэлебачанне. У праграме адзначалася, што ў жыхароў Францыі самая доўгая працягласць жыцця. І больш за ўсё доўгажыхароў менавіта ў нашым дэпартаменце, у нашым горадзе Невер. І самаму старому менавіта 104 гады. Ды і казкі ў кнізе падаюцца ў адмысловым парадку — ад больш простых да складаных.

**— У вашых кнігах казак звычайна змешчана вялікая колькасць здымкаў. Хто іх аўтар?**

— Я сама. Некаторыя дасылаюць мне сябры. Яны зразумелі, што мяне цікавіць, і спецыяльна фатаграфуюць розныя прыгожыя рэчы. Калі не магу кудысьці паехаць і сама сфатаграфаваць, то выкарыстоўваю здымкі з усяго свету, якія мне дасылаюць. Калі не магу нешта знайсці, то раблю малюнак. Да прыкладу, мне быў патрэбен чалавек-зіма — сама яго і намалявала. Часам дадаю да фота спецыяльныя эфекты, для ўзмацнення ўражання раблю мантаж некалькіх здымкаў.

**— Ведаю, што некаторы час вы працавалі ў школе…**

— Сапраўды. І атрымалася так, што цягам маёй педагагічнай дзейнасці я выкладала розным узроставым катэгорыям — ад 2 да 20 гадоў. На працягу 12 год працавала з вучнямі ад 12 да 18, ім выкладала музыку. Потым выйшла замуж, нарадзіліся дзеці, у мяне змяніўся графік, я перайшла працаваць у пачатковую школу — там дзеці ад двух гадоў. Спачатку нават плакала: не разумела, як з імі працаваць. Гэта было адкрыццё. У пачатковай школе кожны дзень у раскладзе ёсць урокі мовы. Арганізоўвала працу так: мы танцавалі-спявалі, многа падарожнічалі, шмат распавядала пра жывёл. Гэта быў вельмі багаты вопыт. Вось чаму я напісала сваю кнігу «Жылі-былі прынцэсы» і нават дапрацоўвала яе, калі праект ужо амаль цалкам быў скончаны — дадавала казкі па матэрыялах падарожжаў у Грэцыю, Егіпет, Турцыю. Нават беларускі чытач можа пабачыць тут шмат знаёмага. У выданні ёсць здымкі дзяцей з Мазыра. Заканчваецца ж кніжка ўрокам у пачатковай школе.

**— Як вы ставіцеся да паэзіі?**

— Пішу шмат вершаў, хоць і не публікую. Часам гэта нават перашкаджае пры напісанні прозы. Рыфмы цалкам натуральна прыходзяць мне ў галаву, вельмі часта я ў казках хачу напісаць рыфмай. Бывае нават так: пачынаю пісаць казку, а атрымліваецца верш.

**— Ці застаецца ў вас час, каб не толькі пісаць свае, але і чытаць творы іншых аўтараў?**

— Калі пішу нейкую гісторыю з удзелам пэўнага героя, то чытаю ўсё, што магу знайсці, пра яго. Згадваю ў сваёй кнізе Напалеона — чытаю пра яго ўсё. І калі пішу пра матылькоў, то ведаю пра іх усё. Гэта не для таго, каб атрымаць натхненне, а каб не памыліцца, не падмануць чытача.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота прадастаўлена Прэзідэнцкай бібліятэкай Рэспублікі Беларусь**

# Вучымся сябраваць — у беларусаў!



*Фота з сайта tryszvaigzdutes.lt*

Сярод гасцей Свята пісьменства ў Быхаве быў і дырэктар літоўскага выдавецтва «Тры зорачкі», галоўны рэдактар дзіцячага часопіса «Зорачка» Яронімас Лаўцюс, які падзяліўся сваімі думкамі з чытачамі «ЛіМа».

— Раней усе пісьменнікі знаходзіліся толькі ў творчым пошуку. Цяпер мы ў пошуку творчасці і выжывання. Калі казаць метафарычна, то калі даўней для творцы напісаць верш або раман было ўсё адно як нарадзіць чаканае дзіця, дык сёння трэба хвалявацца пра тое, як выдаць кнігу, а потым данесці яе да чытача, як фізічна выжыць у час, калі хочацца тварыць, а не займацца гандлем... Да слова, раней да мяне стаяла чарга: радыё, тэлебачанне, — а цяпер я нават выклаў на сваю старонку ў інтэрнэце, што на першага верасня мяне запрасілі на Беларусь, бо ў нас падобных вашаму Дню пісьменства мерапрыемстваў няма. Я лічу, што дзяржава павінна даваць імпульс для творчасці.

**— Першага верасня ў Беларусі яшчэ і Дзень ведаў...**

— Калі ў чалавека ёсць веды — гэта выдатна! Аднак трэба ўсведамляць, як іх прымяніць. Галава адрозніваецца ад страўніка: мы веды павінны не адкладваць, а перадаваць, як эстафету, іншаму. Інакш навошта яны нам? Усё ж ёсць у камп'ютары. Вось я цяпер пішу кнігі пра дэпрэсію, але пішу для таго, каб людзі былі шчаслівыя. Я ўпэўнены, што ў любых умовах мы, пісьменнікі, павінны жыць радасна і дзяліцца гэтай радасцю.

**— Ці можна параўнаць стаўленне да кнігі ў Беларусі і ў Літве?**

— Нашы дзеці, я заўважыў, ужо прывыклі да таго, што любыя веды яны спажываюць у форме гульні. А старэйшае пакаленне ўспрымае думку як таку, без прыхарошвання. У маім дзяцінстве не ў кожнай вясковай хаце была радыёкропка, але колькі інфармацыі мы з яе атрымлівалі! А сёння па радыё гучыць толькі музыка. Мне здаецца, што ў сучасным свеце атрыманне ведаў — гэта своеасаблівы марафон. Калі хоць на хвіліну прыпынішся — адстаў. Але пры гэтым тэхналагічныя веды могуць павялічвацца, а духоўныя — адставаць. Душа ў нас не мяняецца з часоў старажытнасці: ёй патрэбна радасць, пяшчота, любоў, а мы, занятыя тэхналогіямі, часта багатыя, але няшчасныя.

**— Дзе сёння жыве больш шчаслівых людзей, як вам падаецца?**

— У вас, шчыра скажу, больш увагі да спраў духоўных, да літаратуры. Вы шчаслівыя, бо ствараеце адпаведны настрой, а гэта — зерне, з якога вырастае колас. У Мінску мяне заўжды сустракаюць пасяброўску, дапамагае і пасольства, і мае выдаўцы. Я заўжды кажу ў Літве, што ў беларусаў трэба вучыцца сябраваць!

**Таццяна СІВЕЦ**

## Пад вокладкай

# Бабуліны казкі




*Татьяна Жуковская. Удивительные истории, или О чём поёт сверчок. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2013.*

Гэтая кніга ўражвае сваёй дабрынёй і цеплынёй. Здавалася б, сціплае выданне ў мяккай вокладцы, 16 казак, а столькі пазітыву нясе кожны твор, кожны малюнак. Магчыма, уся справа ў падыходзе. Бо казкі чытаюцца, нібы спецыяльна складзеныя бабуляй для сваёй унучкі. Але пачакайце — так яно і ёсць!

У прадмове да выдання, якое і само па сабе можа лічыцца асобнай казкай, аўтарка піша: «У адным вялікім горадзе жыла-была проста Добрая Бабуля. Яна любіла ранічамі слухаць спевы птушак, назіраць за сонечнымі зайчыкамі, крыштальнымі кропелькамі расы на кожнай травінцы і кветачцы… Але асабліва Добрая Бабуля любіла дзяцей». Таму яна заўсёды марыла, што аднойчы ў яе з'явіцца ўнучка — прыгожая, разумная і ласкавая дзяўчынка Настачка. І тады Бабуля будзе клапаціцца пра яе, а з асаблівым задавальненнем — распавядаць казкі.

Калі доўга пра нешта марыць, то гэта абавязкова здзейсніцца. Вось і ў Бабулі нарадзілася ўнучка Настачка. Яна хутка расла і з задавальненнем слухала добрыя Бабуліны казкі. Думаецца, яны зацікавяць не толькі Настачку, але і дзетак з іншымі імёнамі — Тацянак, Стасікаў, Аленак… Гэтыя кароткія творы распавядаюць дзіўныя гісторыі. Да прыкладу, ці ведаеце вы, чаму ліса стала рыжай? А вось Бабуля тлумачыць гэта так: ліса спачатку была шэрай, але аднойчы, пазайздросціўшы мядзведзю, які ласаваўся малінамі, з'ела надта шмат гэтых салодкіх ягад. Таму і яе поўсць нібыта пачырванела — стала вогненнай ад малін.

Распавядае казачніца і іншыя гісторыі. Як кацяня Пушок пасябравала з сабачкам Сняжком, як маленькая елачка на Новы год адшукала сваю маму — вялікую і прыгожую ёлку, як хлопчык знайшоў сабе добрага сябра — павучка. Не буду больш распавядаць, пра што казкі, бо дзеткам і іх бацькам тады нецікава стане іх чытаць.

Адметна таксама, што цудоўныя казкі дапаўняюць незвычайна цёплыя малюнкі мастачкі Аксаны Хамко.

**Чэслава ПАЛУЯН**

# Чаму — «Буся»?

У дзяцей Беларусі, якія яшчэ не ходзяць у школу, з'явіўся свой часопіс. Ён называецца чытанка-маляванка «Буся».

Птушка бусел, бадай, самая любімая і паважаная на Беларусі. Яна — наша хатняя суседка. Ладзіць свае «маёнткі» на дрэвах, слупах, вежах каля паселішчаў людзей. Ёсць буслянкі нават на дахах, на цагляных комінах. І можна зблізку назіраць, як жывуць буслы, як цярпліва і ласкава даглядаюць дзетак-бусек, як кормяць іх і клякочуць свае песні.

Дык жа і сваіх дзетак мама і тата часам называюць бусямі, пяшчотна цалуючы іх. І ўсё робяць, каб яны раслі мудрымі, дасціпнымі, вясёлымі. Каб ведалі родную мову, любілі чытаць кніжкі, паважалі дарослых.

І наша, вясёлкаўская, «Буся» жадае стаць добрай нянькай, выхавальніцай для хлопчыкаў і дзяўчынак Беларусі. Пабачыў свет першы нумар часопіса-маляванкі. Яго прэзентацыя адбылася на Дні беларускага пісьменства ў Быхаве. Мы з пісьменніцай Раісай Баравіковай напісалі казку «Чароўныя літары». Друкуецца калыханка паэта Сяргея Грахоўскага і Бусеў слоўнічак. А ўпрыгожылі часопіс сваімі малюнкамі мастакі Уладзімір Жук, Валянціна Чэпік, Віталь Дударэнка. Гэтыя аўтары рыхтуюць да друку другі нумар часопіса, які выйдзе ў кастрычніку.

**Уладзімір ЛІПСКІ,**
**галоўны рэдактар часопісаў «Вясёлка» і «Буся»**

# Память — это ты

Сезон «Весна-лето-2013» для книголюбов отмечен различными событиями. Кто-то будет помнить невероятный успех и возвращение на прилавки «Великого Гэтсби» Ф. Фицджеральда, кто-то будет долго радоваться выходу новой книги Виктора Пелевина (конечно, до появления очередного романа)… Думаю, что все любители триллеров в качестве важного события отметят для себя выход нового романа Стивена Кинга. Но издатели решили рядом с новинкой — книгой «11/22/63» — поставить на полку и переиздание произведения, написанного королём ужасов в 2008 году, — роман «Дьюма-Ки». В целом неплохой подарок фанату получился. Именно с этими книгами — а они вышли при поддержке ООО «Харвест» — мы сегодня знакомим наших читателей.




## ДВЕРЦА В 1950-Е

Хотели ли вы когда-нибудь изменить прошлое? Причём не какой-то пустяковый момент в нём, а на самом деле знаковое событие, повлёкшее за собой кардинальное изменение развития событий. Роман **«11/22/63»** даёт читателю возможность пофантазировать на эту тему и стать очевидцем самого трагического события американской истории XX века.




Джейк Эппинг, молодой преподаватель литературы из небольшого городка Лизбон-Фоллс в штате Мэн, и не подозревает, как изменится его жизнь в один из летних вечеров 2011 года, когда приятель Эл, владелец закусочной на колёсах, задумывает поделиться с ним своим секретом. Оказывается, что в кладовке закусочной находится портал — «кроличья нора» в 1958 год. У героя книги появляется возможность повлиять на течение истории. Выбор падает на самое трагичное и таинственное происшествие середины XX века в Америке — убийство президента Джона Кеннеди.

Но между 1958 и 1963 годами есть ещё уйма возможностей, которыми можно проверить, как поведёт себя история, помешай её ходу путешественник во времени. Ну и, конечно, есть лазейка. Если вдруг всё обернётся совсем не так, как хотелось бы, то герою по возвращении через «кроличью нору» придётся начинать заново свои попытки изменить ход истории. Ведь время сбрасывается «на ноль»! Так, Эппинг решает для начала изменить жизнь ученика вечерней школы, пожилого уборщика Гарри, отец которого, как выясняется, убил двоих детей, жену, искалечил Гарри. Казалось бы, всё просто — разузнать из газет подробности про тот случай, прийти на помощь Гарри и его семье. Но ход истории всё время стремится к гармонии и подставляет подножки тому, кто пытается повлиять на ход событий. Это делает поставленную задачу гораздо сложнее, чем показалось с первого взгляда…

При написании своего первого псевдоисторического романа «11/22/63» Кинг провёл колоссальную работу в архивах и музеях. Для воссоздания подлинной атмосферы того времени он проштудировал немалое количество газет и журналов за период, описанный в романе, благодаря чему у читателя появляется возможность окунуться с головой в Америку пятидесятых. Ну и, конечно же, особое внимание «великий и ужасный» посвятил изучению материалов по «делу Освальда». За полвека с того рокового ноября появилось несметное количество публикаций и книг, посвящённых биографии Кеннеди, его предполагаемого убийцы Ли Харви Освальда, теориям заговора и многих догадок, что произошло бы, останься президент в живых. Эти материалы послужили для создания психологических портретов ключевых героев «11/22/63», а также для воссоздания исторически точных сцен, которые автор так умело переплетает с вымыслом.

Перед вами не просто очередная книга всемирно признанного «короля ужасов» Стивена Кинга. Это своеобразная дверца в Америку середины XX века со всеми её нюансами и переживаниями. Города, люди и события оживают и притягивают к себе любителей истории. Почитатели мистики традиционно не обделены вниманием и получат свою порцию ощущений от необъяснимых проявлений неизведанной природы. И если вы готовы отправиться в увлекательное путешествие, закусочная Эла ждёт вас!

## РОМАН-КАРТИНА




Книгу **«Дьюма-Ки»** можно назвать почти классикой стиля Кинга, поэтому неудивительно, что сразу после выхода она заняла первое место в списке бестселлеров по версии *The New York Times*. Тут и его любимая манера: неспешная, медленно нагнетающая ощущение ужаса. И любимые темы писателя — энергетика «нехорошего» места, древнее Зло, дремавшее где-то глубоко и неожиданно проснувшееся. И сверхспособности, которые герой обретает как компенсацию за боль и увечье. И творчество как отдельная сила (человек же может быть только проводником, инструментом для осуществления таинственного замысла). И материализация воображаемого…

А начинается всё так. Строительный подрядчик Эдгар Фримантл попадает в автокатастрофу, получает повреждение мозга и лишается правой руки. Не выдержав трудностей и вспышек ярости мужа, жена Пэм, с которой он прожил 25 лет, решает развестись. Чтобы начать жизнь сначала, некогда преуспевающий бизнесмен, ставший инвалидом, переезжает на маленький южный островок Дьюма-Ки. Казалось бы — идеальное место. Но — как всегда у Кинга — не всё так просто.

Постепенно Фримантл открывает в себе талант потрясающего художника. Однако чем дольше живёт он на Дьюма-Ки, тем более страшную силу обретают его картины. А сюжеты и события, изображённые художником, становятся страшной реальностью. Оказывается, в них таится Зло. Сам писатель рассуждает вот как: «Искусство — это магия, но не вся магия белая». Трудно не согласиться!

Но не только сюжет романа делает его по-настоящему кинговским. Дело ещё и в стиле. Автор, подобно своему герою, написал не просто историю, он практически создал книгу — как картину. Сюжет развивается медленно, герои и события на первых страницах скорее сравнимы с набросками, но с каждой новой главой они постепенно обретают форму, цвет и объём, словно становятся полотном, от которого захватывает дух и веет смутно уловимым ужасом.

Жалко только, что не можешь увидеть картины Эдгара такими, какими их видел сам художник. Можно только бесконечно представлять… Многие читатели отмечают, что после прочтения книги им невероятно хотелось «побежать в художественный музей, чтобы полюбоваться на живопись». Кому-то, наоборот, страшно было «спугнуть» то невероятное ощущение Силы, или, скорее, осознание того, что Сила, Зло таятся в полотнах Эдгара, то невероятное ощущение предчувствия (тем более если уже знаешь, что картины необычны) чего-то страшного.

В оригинале роман имеет название *Duma Key.* Если чуть-чуть поиграть со словами и смыслами (а Кинг это очень любит), получится *the key of doom* — то есть «ключ от смерти». Неплохо! Но это определение относится не только к сюжету романа, но и к его сути. Книгу можно считать ключом к кинговскому пониманию жизни, к ответам на многие вопросы, которые рано или поздно задаёт себе человек. Кроме того, роман может стать толчком для формулировки самих вопросов. Например, «…для человека, если на то пошло, память — это всё. Память — это индивидуальность. Память — это ты».

**Вячеслав КРАСУЛИН,**
**Чеслава ПОЛУЯН**

# Живая мёртвая родня




Круговорот событий, имён, судеб поглощает с головой в неизведанный квартал Нового Орлеана. Именно сюда переносит читателя Шарлин Харрис в своей новой книге «Мёртвая родня», которая вышла при поддержке ООО «Харвест». Роман стал продолжением популярной серии «Вампирские тайны».

История жизни 27-летней телепатки Сьюки увлекательна и опасна. На этот раз ей предстоит пройти курс лечения после многочисленных ранений, смириться с потерей близких и родных, оказать психологическую поддержку кузену, научить мальчика-телепата вести себя в обществе, убить вампира, выступить шаманкой-судьёй на съезде вервольфов и, наконец, помочь любимому справиться с разъярённым братом по крови.

Завязка романа такова: около дома Сьюки творится что-то неладное. Вервольфы, совершающие здесь ежегодный бег, учуяли запах фейри и двух трупов. Эрик, муж, в чьих жилах течёт кровь Сьюки, грациозен, импозантен, красив, умён и сообразителен. Вампир по сути, он, как и все его сородичи, спит днём в закрытом от солнечных лучей помещении, а ночью выходит на службу. Билл, бывший парень Сьюки, слаб из-за потери крови и напрочь отказывается восстанавливаться. Он вынуждает героиню совершить кражу диска, на котором есть информация о сестре по крови Билла, единственной, кто может оказать ему помощь.

Когда жители штата пытаются выяснить, почему загадочные обстоятельства происходят именно здесь, на горизонте появляется создатель Эрика, могущественный вампир Аппий Ливий Окелла со своим новым сыном, тринадцатилетним мальчиком, представителем древнейшего рода Ракоци, Лучианом. Война, разруха, голод, холод и издевательства над людьми — всё это осталось в памяти Лучиана. Он не смог забыть страх, и потому новый отец не в силах его контролировать. Они приехали за помощью в надежде, что Эрик наставит мальчика на путь истинный и поможет смириться со своей участью.

Но ситуация выходит из-под контроля. Лучиан начинает убивать людей. Информация попадает в газеты, город настораживается. Возникает угроза для всех вампиров. Три трупа на счету Лучиана, он нападает на Создателя, после на Эрика, потом готов разорвать и Сьюки, но женщина вовремя набрасывает серебряную цепь на горло мальчика, а Эрик вонзает в него сломанную ветку. Лучиан развеивается над чащей…

Сьюки разгадывает все загадки за один вечер, её недоброжелатели мертвы, казалось бы, конец истории. Но на горизонте новые приключения и враги. Любовные интриги, закрученный сюжет и масса впечатлений — всё это уготовила своему читателю создательница «Мёртвой родни» Шарлин Харрис.

**Наталья УСЕНКО**

# Аднакласнік, настаўнік, сябар…

**Не так даўно ў «ЛіМе» былі апублікаваныя ўспаміны Соф'і Сільвановіч, якая была знаёмая з Уладзімірам Караткевічам у дзяцінстве. Мы з Эдуардам Навагонскім вырашылі не спыняцца, а знайсці і запісаць успаміны ўсіх, хто ў тыя далёкія гады блізка ведаў будучага класіка беларускай літаратуры. У Аршанскім музеі Уладзіміра Караткевіча дапамаглі з адрасамі яго землякоў. Вось што распавялі былыя аднакласнікі і вучні пісьменніка.**

**Уладзімір ШАФРАНСКІ, у мінулым выкладчык Аршанскага механіка-эканамічнага каледжа:**

— З Валодзем Караткевічам я вучыўся ў адной школе, толькі быў на год малядзейшы за яго. Школа была невялікая па колькасці вучняў, і мы добра ведалі адзін аднаго. Валодзя з першых дзён вучобы адрозніваўся сваімі здольнасцямі. Мы гэта заўважалі і ставіліся да яго з асаблівай дзіцячай павагай. У той час не было ні аўдыё, ні відэа, ні тэлебачання, таму мы мелі шмат вольнага часу. Разам гулялі, чыталі кнігі, наведвалі розныя гурткі. Я хадзіў у музычны. Мы часта выязджалі ў шпіталь выступаць перад хворымі. А Валодзю Караткевіча цягнула да драматургіі... Па яго ініцыятыве ў школе быў створаны драматычны гурток, якім ён сам і кіраваў: размяркоўваў ролі сярод удзельнікаў, часам паказваў, як трэба іх выконваць. Я, напрыклад, іграў Хлестакова ў спектаклі па п'есе М. В. Гогаля «Рэвізор». На рэпетыцыі спектакля Валодзя выходзіў на сцэну і, удаючы вобраз персанажа, мяняў голас і рухі, дэманстраваў, як вымаўляць тую ці іншую фразу. Гэта нам дапамагала ў працы над роляй.

**Ніна ЯСКЕВІЧ, колішняя настаўніца матэматыкі ў адной з аршанскіх школ:**

— У 1947 годзе ў нашым дзявятым класе з'явіўся новы вучань Валодзя Караткевіч. Ён, як потым высветлілася, не любіў дакладныя навукі. Клас быў вельмі дружны, і, у адрозненне ад Валодзі, усе добра ведалі матэматыку. Але добра ведалі і літаратуру, дзякуючы руплівасці нашай цудоўнай настаўніцы Кацярыны Грыневіч. Урокі яна праводзіла цікава, творча, прымушала працаваць уяўленне і фантазію. Калі ў нашым класе з'явіўся Валодзя, на ўроках літаратуры стала яшчэ цікавей. Менавіта тут ён ажываў, быў актыўным, цікава разважаў, меў сваё меркаванне. Гэты вучань адрозніваўся ад іншых тым, што цудоўна ведаў прадмет, а таму часта ўступаў у дыялог з настаўніцай, і ўрокі ператвараліся ў маленькія дыспуты. Яго веды мастацкай літаратуры выходзілі далёка за межы школьнай праграмы. А яго спрэчка з Кацярынай Іванаўнай пры абмеркаванні зместу новых кніг выклікала жаданне прачытаць гэтыя кнігі, каб таксама быць у курсе навінак, як Валодзя. Акрамя гэтага, мы ўсе ведалі, што Караткевіч піша вершы. І ён не хаваў здольнасцей, наадварот, адорваў сваімі творамі.

Звычайна перад Новым годам мы ўсе віншавалі адзін аднаго паштоўкамі з пажаданнямі. Як правіла, пажаданні былі ў празаічнай форме, вельмі рэдка ў вершах, і то не ўласна складзеныя. І вось напярэдадні 1948 года, 31 снежня, на школьнай вечарыне мы, аднакласнікі Валодзі, — усе без выключэння! — атрымалі ад яго віншаванні ў вершаванай форме. Вершы былі цікавыя, з гумарам. У іх Валодзя акрэсліў характэрныя рысы кожнага з нас.

Яшчэ ён вельмі добра маляваў, і да кожнага свята рэдкалегія, якую, канечне, узначальваў Караткевіч, рабіла класную насценгазету. І калі ў падрыхтоўцы матэрыялу мог узяць удзел любы вучань класа, то афармленнем, па агульнай згодзе, займаўся будучы знакаміты пісьменнік. Помню, да жаночага свята 8 Сакавіка ён разам з хлопцамі афармляў насценгазету, дзе кожнай дзяўчынцы, у тым ліку і мне, быў прысвечаны верш. Вершы напісаў Валодзя, у іх былі пажаданні знайсці сваё месца ў будучыні, у той галіне дзейнасці, дзе б дзяўчынка магла, на яго погляд, найбольш праявіць свае здольнасці ў дарослым жыцці. Усе малюнкі і карыкатуры былі зроблены рукой Караткевіча.

Кацярына Іванаўна аднойчы дала заданне класу напісаць п'есу, якая б складалася з аднаго ці двух актаў. На наступных уроках мы чыталі свае «драматычныя творы» перад аднакласнікамі. У асноўным атрымаліся нязначныя, наіўныя п'ескі, а вось работы двух нашых вучняў — Лёні Крыгмы і Валодзі Караткевіча — атрымаліся цікавыя. П'есу Валодзі мы слухалі два ўрокі. Адметна тое, што некаторыя падзеі, апісаныя Караткевічам у гэтай школьнай рабоце, потым знайшлі месца ў яго кнізе «Чорны замак Альшанскі». Ужо будучы дарослай, я чытала гэты раман і многае пазнавала з таго, што мы чулі тады, на ўроку літаратуры. Падзеі адбываліся ў змрочным падзямеллі, поўным таямніц, незвычайных прыгод і падзей. Мы ўжо тады слухалі Валодзеву п'есу з вялікай увагай, баючыся прапусціць хоць адно слова. У нашым уяўленні гэта быў сапраўдны літаратурны твор, нягледзячы на тое, што мы вучыліся толькі ў дзявятым класе. За адзін урок Валодзя не змог прачытаць усе тое, што было напісана. І мы, аднакласнікі, угаварылі настаўніцу дазволіць дачытаць п'есу да канца на наступным уроку.

Аднойчы на ўроку малявання я пайшла ў заклад з Валодзем, што намалюю прыгажуню лепш за яго. Ці трэба казаць, што выйграў ён... Дакладней, яго сапраўдная прыгажуня ў нейкім сярэдняевечным убранні. Па ўмовах закладу той, хто прайграе, павінен быў пасля ўрокаў, калі прыйдзе час Валодзевага дзяжурства, прыбраць клас. Я гатова была гэта зрабіць, але Валодзя ўсё зрабіў сам, яшчэ паабяцаў дапамагчы і мне падчас майго дзяжурства. Ён заўсёды прыходзіў на дапамогу, з ім заўсёды было хораша і весела сябраваць. Прайшло шмат гадоў, і мне цяпер прыемна ўсведамляць, што я вучылася з чалавекам, які зрабіў важкі ўнёсак у сусветную літаратуру. Ён ужо тады быў адзначаны многімі талентамі.


*Фота з сайта uladzimir-karatkevich.com*

*Уладзімір Караткевіч, 1958 г.*

**Людміла ЛЯТУН, былая выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Аршанскага педагагічнага каледжа:**

— Уладзімір Сямёнавіч пачаў працаваць у школе № 8 у 1957 годзе, тады я была вучаніцай восьмага класа. Ён адразу заваяваў нашы сімпатыі, паколькі быў чалавекам бачным: малады, прыгожы, статны... Меў некалькі ўласцівых толькі яму звычак, напрыклад, ён заўсёды кранаў свае валасы, прыгладжваючы іх. А калі тлумачыў новы матэрыял, то хадзіў па класе шырокімі крокамі. Караткевіч так захапляўся расповедам, што мне часам здавалася, быццам ён не бачыць нас, сваіх вучняў. Гаварыў ён, выразна вымаўляючы словы, а часам цытаваў класікаў савецкай і сусветнай літаратуры, у такія моманты нібыта свяціўся знутры.

Караткевіч выкладаў у нас рускую мову і літаратуру. На методыку выкладання прадмета ў яго быў свой погляд. Кожны раз стараўся даць матэрыял неяк па-новаму, мог заінтрыгаваць пэўным эпізодам, а затым, захапіўшы нашу ўвагу цалкам, пачынаў расказваць сюжэт і раскрываць сутнасць рамана, аповесці ці верша. Часам урокі ператвараліся ў дыспуты. Уладзімір Сямёнавіч любіў адказваць на розныя пытанні, якія датычылі прадмета. Бывала, мог распавесці пра сябе або пра які-небудзь выпадак з жыцця, і гэта было павучальна і цікава. Ён прымушаў нас думаць: даваў першапачатковыя ўстаноўкі, маляваў сітуацыю, а потым прапаноўваў закончыць дзеянне, развіваючы ў нас фантазію.

У кожным вучні Уладзімір Караткевіч найперш бачыў чалавека, якому павінен перадаць усе свае веды, развіць творчы пачатак. На ўроках не абмяжоўваўся толькі школьнай праграмай: знаёміў нас з класікамі сусветнага ўзроўню і з сучаснымі пісьменнікамі, а ў вольны ад урокаў час арганізаваў у школе драматычны тэатр, куды быў адкрыты ўваход усім жадаючым, незалежна ад ступені іх адоранасці і пасляховасці. Калі Уладзіміра Сямёнавіча штосьці кранала да глыбіні душы, то ён заўсёды гаварыў: «Я зараз такі расчулены», падносіў да вачэй насоўку і зноў паўтараў: «Ой, я такі расчулены». Гэта была яго найвышэйшая адзнака... Калі Караткевічу споўнілася пяцьдзясят гадоў, па тэлебачанні была перадача, прысвечаная юбілею. Я глядзела яе з сяброўкамі, якіх таксама вучыў Уладзімір Сямёнавіч. Сядзім і мяркуем, ці скажа ён сваё «Ой, я такі расчулены!» Сказаў! І нам стала прыемна і весела.

**Рыта ПУНТУС, раней працавала ў «Энергазбыце» тэхнікам па разліках:**

— Настаўнікам Караткевіч быў арыгінальным, і гэтая арыгінальнасць праявілася адразу. Ён не ставіў ніякіх іншых адзнак, акрамя «пяцёрак» і «двоек». Тую невялікую розніцу ва ўзросце, якая раздзяляла нас (а было яму тады каля дваццаці гадоў), ён адкінуў і пачаў наладжваць сяброўскія адносіны. Уладзімір Сямёнавіч вельмі не любіў гультаёў! Яго моцна нервавала, калі на ўроку хтосьці пачынаў свавольнічаць, не слухаў, дрэнна засвойваў матэрыял.

Я была ўдзельніцай драматычнага гуртка. Мы спрабавалі разам з ім паставіць на сцэне гогалеўскія «Вечары на хутары каля Дзіканькі». Уладзімір Сямёнавіч браў у гэтым самы актыўны ўдзел, праяўляючы ўжо ў тую пару добрыя арганізатарскія здольнасці.

**Анатоль ШАБЕКА**

## На паліцы



# Яшчэ раз пра паўстанне

**Сёлета ў нашай краіне выйшла досыць шмат кніг, прысвечаных паўстанню 1863 — 1864 года і асобе яго кіраўніка — Кастуся Каліноўскага. А не так даўно гэтая тэматычная палічка папоўнілася новым рэалізаваным праектам. У выдавецтве «Медысонт» пабачыла свет новая кніга серыі «Беларусь у войнах». Гэта праца кандыдата гістарычных навук, выконваючага абавязкі загадчыка аддзела публікацый і дакументаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Дзмітрыя Матвейчыка «Паўстанне 1863 — 1864 гадоў у Беларусі: нарыс баявых дзеянняў».**

— У гэтай кнізе ўпершыню ў Беларусі я паспрабаваў змясціць хаця б невялікі расповед пра баявыя дзеянні, што адбываліся на тэрыторыі нашай краіны ў 1863 годзе, — распавядае Дзмітрый Матвейчык. — Усе папярэднія даследаванні, на жаль, не давалі поўнага ўяўлення пра тое, на якой тэрыторыі дзейнічалі пэўныя паўстанцкія атрады. І навуковыя, і публіцыстычныя працы былі насычаны масай факталагічных памылак: вельмі часта іх аўтары не займаліся лакалізацыяй падзей у той ці іншай мясцовасці. У сваім даследаванні я паспрабаваў звярнуць увагу менавіта на ваенны аспект вялікай палітычнай падзеі, які вельмі часта ігнаруецца нашымі гісторыкамі і публіцыстамі.

Але не толькі гэты факт робіць выданне адметным. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі аўтарам выяўлена каля трох тысяч спраў, яны асвятляюць розныя бакі паўстання. Гэтыя дакументы актыўна выкарыстоўваліся пры напісанні кнігі, а некаторыя цікавыя і адметныя справы, іх фрагменты нават увайшлі ў выданне. Да прыкладу, рапарты расійскіх войскаў пра сутычкі з паўстанцамі ў некаторых мясцовасцях.

— Унікальных дакументаў у нашым архіве шмат, — падкрэслівае Дзмітрый Матвейчык. — Ёсць нават цэлыя фонды, якія яшчэ не выкарыстоўваліся даследчыкамі пры напісанні гісторыі паўстання.

Натуральна, узнікаюць пытанні: кніга навуковая ці навукова-папулярная? На якога чытача арыентуецца аўтар.

— Што датычыць якасці тэксту, то ён набліжаны да навукова-, — тлумачыць даследчык. — Аднак, безумоўна, прапанаваць навуковы тэкст паспалітаму чытачу было б не зусім лагічным рашэннем. Таму ў выданне была ўведзена вялікая колькасць цікавых ілюстрацый, гэта і раней вядомыя, і новыя выявы. Упэўнены: кнігу будзе цікава не толькі чытаць, але і проста гартаць, разглядаць малюнкі!

Як распавёў рэдактар серыі «Беларусь у войнах» кандыдат гістарычных навук Мікалай Плавінскі, выхад кніг, прысвечаных ваеннай гісторыі нашай краіны, будзе працягвацца. Так, у планах падрыхтоўка выдання пра падзеі XVII стагоддзя, неўзабаве таксама і рэалізацыя праекта, прысвечанага фартыфікацыі замкаў Радзівілаў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Палац імя Віталя Цвіркі

Днямі зацверджана прапанова Беларускага саюза мастакоў прысвоіць Палацу мастацтва ў Мінску імя народнага мастака БССР Віталя Цвіркі. Пра гэта распавёў першы намеснік старшыні саюза Рыгор Сітніца на адкрыцці выстаўкі творцы «Віталь Цвірка. 100…» Вялікая экспазіцыя пейзажаў і нацюрмортаў класіка беларускага жывапісу другой паловы XX стагоддзя будзе працаваць да 18 верасня. Прадстаўленыя некалькі дзясяткаў выдатных палотнаў з фондаў Беларускага саюза мастакоў, а таксама з калекцыі сям'і жывапісца доўгія гады былі не дасягальныя аматарам прыгожага. Падзея, якую не варта прамінуць, бо творчасць Цвіркі — як ланцужок, што звязаў найбольш значныя моманты мастацкага жыцця краіны.

Віталь Цвірка — таленавіты беларускі жывапісец, вядучы майстар пейзажнага жанру другой паловы XX ст., пераемнік вялікіх здабыткаў пейзажнага мастацтва Ф. Рушчыца, С. Жукоўскага, В. Бялыніцкага-Бірулі. Ён пакінуў нам надзвычай каштоўную творчую спадчыну. Беларуская прырода з яе непараўнальным багаццем вобразных матываў стала невычэрпнай крыніцай натхнення мастака.

Віталь Канстанцінавіч нарадзіўся 1 лютага 1913 года ў вёсцы Радзеева (цяпер гэта Буда-Кашалёўскі раён Гомельскай вобласці) у сям'і настаўнікаў. Спрыяльнасць асяроддзя падмацоўвалася тым, што дома была добрая бібліятэка, бацька захапляўся мастацтвам, сцены ўпрыгожвалі рэпрадукцыі твораў расійскіх мастакоў. З цягам часу хлопчык пачаў маляваць і сам. Потым — пераезды сям'і ў Гомель, Мінск. Тут побач былі асобы, у якіх Цвірка атрымліваў парады і мастацкую адукацыю: М. Станюта, А. Тычына, І. Ахрэмчык, Л. Лейтман, С. Герасімаў, А. Дайнека, І. Грабар і інш. Няма падстаў лічыць Цвірку падобным да аднаго з настаўнікаў, але ён узяў, свядома ці не, ад кожнага тое, што адпавядала яго творчым патрэбам.

Першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі Цвірка займаўся пейзажамі і так званым «тэматычным жывапісам» — гістарычным і побытавым. Вядома, што мастак, выканаўшы для Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны серыю мемарыяльных партрэтаў, да жанру партрэта ўвогуле звяртаўся рэдка, застаючыся найперш мастаком-пейзажыстам. Мемарыялізацыя савецкай гісторыі магла добра падкарміць творцу ў тыя часы, але такі выбар яго не задавальняў. У часы сацыялістычнага рэалізму вышэй за ўсё астатняе ўладамі цанілася сюжэтная кампазіцыя: па ёй працей сачыць за свядомасцю мастака, за яго палітычнай добранадзейнасцю. Карціна Віталя Цвіркі «Няскораныя» (1947) не толькі не горшая за шэраг падобных тагачасных твораў, але і выбівалася жывапісам і псіхалагізмам. Тыя ж якасці ўласцівыя шэдэўру мастака «Паўстанне рыбакоў на возеры Нарач» 1957 года.

1948 — 1953 гады — прамежак часу, які практычна не пакінуў твораў жывапісца, акрамя непазбежных «Ленін і Сталін у Горках» (1950) і «Думы пра народ» (1952). Гэта дэкларацыя палітычнай добранадзейнасці. Вядомы і тагачасныя краявіды Цвіркі, але яны безаблічныя і амаль пазаіндывідуальныя. Карціна «Ля млына» датуецца 1954 годам. Прыгожы сонечны краявід, якому нечаканая, мутная разбеленасць надае адчуванне стомленасці і засяроджанасці, хваравітасці. Гэты твор успрымаецца як праява чалавечага і грамадскага выздараўлення ад трыццацігадовай хваробы — глыбокага таталітарызму.

І з той пары, калі яму было ўжо за сорак, Цвірка становіцца сабой — свабодным, моцным, разняволеным. Дзякуючы асаблівасцям абранай тэмы — прыроды — мастак, відавочна, без заўважных страт адпавядаў мары савецкай ідэалогіі — веліч, рэалізм, жыццесцвярджальнасць, рамантычнасць.



Леанід Шчамялёў «Партрэт мастака В. К. Цвіркі», 1982 г. Палатно, алей.

Эвалюцыя мастака відавочная і паслядоўна-імклівая асабліва ў такіх тэматычна падобных творах, як «Талыя воды» і «Вясна», «Вечар» і «Ля возера Свір». Ад дакладнага, таленавітага, але ўсё ж такі крыху літаратурнага ўвасаблення прыроды да прамой перадачы сутнасных з'яў душы. Цвірка аднолькава пераканаўча ўзнаўляе пранізлівую, ветраную прастору ў «Заслаўі», душную спякоту лета — у пейзажы «У Пясках», мястэчковую прыстойнасць і самазадаволенасць «Браслава», ціхую, развітальную мудрасць «Ружовага дня», запаленне прыроды ад ваеннага болю ў «Ганчы — зямлі партызанскай», кранутую смуткам веліч у «Родным краі», захапляльную, магутную радасць абуджэння зямлі ў «Сакавіцкім сонцы», старажытную, вытанчаную духоўнасць «Каложы». А пейзаж «Стоўбцы» ўвогуле набывае такі вялікі змест, што ў літаратуры яго можна параўнаць хіба што з жанрам рамана-эпапеі. Мастак часта ўзмацняў у творах прыроднае гучанне колеру, надаваў яму дэкаратыўнасць. Але цудоўным чынам абагульнены колер не губляў багацця, разнастайнасці прыродных фарбаў, а канцэнтраваў іх, дадаткова праяўляў той ці іншы пейзажны вобраз. Цвірка злучаў у вялікіх карцінах праўдзівую непасрэднасць першага ўражання і рамантычную ўзвышанасць адчування прыроды.

Як запавет нашчадкам да сённяшняга часу словы Віталя Канстанцінавіча: «Не разумею жывапісцаў, якія пазбаўляюць сябе галоўнай радасці творчасці — працаваць у полі, у лесе, на рацэ. Амаль усе свае палотны я намаляваў на адкрытым паветры, таму што сам-насам з прыродай я чую яе сэрца».

Аматары беларускай даўніны памятаюць выстаўку іканапісных абразоў XVI — XVIII стагоддзяў з калекцыі Віталя Цвіркі, якая прайшла ў сярэдзіне 1990-х у Нацыянальным мастацкім музеі. Цягам сваіх вандровак па краіне, малюючы краявіды, цэнтральнай дамінантай на якіх вельмі часта апыналіся храмы, мастак, як мог, ратаваў старадаўнія шэдэўры з зачыненых святыняў. Падобна свечкам узносяцца на яго палотнах то над заснежанымі прасторамі, то ў тонкай атмасферы восеньскай ці веснавой прыроды (мастак захапляўся пераходнымі станамі паравін года і часу сутак) купалы і званіцы цэркваў. Храм на палотнах творцы — духоўная і эстэтычная кульмінацыя краявіду. Чамусьці ў «атэістычнай» дзяржаве мастаку гэта даравалі.

Віталь Цвірка — узор мастака, які развіваўся, «не сыходзіў з дыстанцыі» ўвесь свой доўгі век. У апошняе дзесяцігоддзе жыцця ён захапіўся нацюрмортам. Творы гэтага жанру вызначаюцца маштабнасцю, уласцівай Цвірку ўвогуле, і адначасова камернасцю, інтымнасцю, кранальнасцю безабароннага і крохкага чалавечага побыту. Кветкамі — маленькай каштоўнасцю грандыёзнай скарбніцы прыроды — мастак зацікавіўся ўжо ў вельмі сталым узросце. Раней ён больш глядзеў удалячынь, а тут прыглядзеўся да блізкіх рэчаў — магчыма, таму, што далячынь зрабілася менш дасягальнай.

Калі ў памяці ўзнаўляеш вобраз творчасці В. Цвіркі, дык пераважаюць уражанні моцы, шырыні, упэўненасці. Але калі глядзіш на канкрэтныя творы, гэтае адчуванне дапаўняецца наяўнасцю відавочных рэфлексій майстра наконт драматызму не толькі прыгожага, але і пакутнага жыцця. Віталь Цвірка належаў да тых нешматлікіх мастакоў, у лёсе якіх спалучаюцца выключны талент, афіцыйнае прызнанне, жыццёвы поспех — дзякуючы супадзенню іх уласных памкненняў з нейкімі істотнымі запатрабаваннямі часу.

**Таццяна ШЫМУК**

# Юны і сталы Верасень

**Творчае аб'яднанне «Верасень» Беларускага саюза мастакоў святкуе 25-годдзе і прадстаўляе выстаўку ў Палацы мастацтваў.**

Менавіта ў верасні 1989 года адбыўся сход мастакоў-графікаў, з якога і пачалося аб'яднанне «Верасень». Мастакі, даволі розныя і па таленце, і па жыццёвым досведзе, і па творчых памкненнях, сабраліся разам, таму што не хацелі належаць празмерна раздзьмутай секцыі графікі, дзе звыклай справай сталіся міжгрупавыя спрэчкі зусім не па творчых пытаннях. Станкавісты і мастакі кнігі, акварэлісты і майстры малюнка, падзяляючы адзіныя погляды на тое, якім павінна быць жыццё ў творчым саюзе, сабраліся разам дзеля творчай працы, дзе няма месца непамерным амбіцыям, кланавым інтарэсам, падзелу мастакоў па нацыянальнай прыналежнасці. Ядром творчага аб'яднання сталі С. Волкаў, П. Дурчын, Г. Паплаўскі, Н. Паплаўская, Ю. Зайцаў, Я. Жылін, В. Кліменка, М. Казлоў, І. Лобан, М. Міронаў, У. Пашчацаў, М. Рыжыкаў, Н. Сустава і інш. Даўно і трывала займаюць сваё месца ў айчыннай культурнай прасторы і іншыя вераснёўцы — В. Шнарэвіч, М. Сенькін, Я. Саковіч, Б. Цітовіч, Т. Чарнышова, К. Паплаўская, Т. Царова...

Часам, не падзяляючы прафесійныя і стылёвыя пошукі адзін аднаго, мастакі аб'яднання «Верасень» тым не менш перакананы, што сумеснае творчае жыццё, актыўная выставачная дзейнасць, добразычлівыя адносіны, імкненне вырашаць усе праблемы, творчыя і грамадскія, толькі шляхам кампрамісу, павагі думкі кожнага, дазваляюць з надзеяй пазіраць у будучыню.



Усевалад Швайба «Ізгой», 2013 г. Папера, туш, пяро.

Мастацкая мова і стылістыка, тэматыка і тэхніка сяброў аб'яднання вельмі разнастайныя — ад рэалізму і імпрэсіянізму да сімвалізму і абстракцыі, аднак першапачаткова і дагэтуль грунтуюцца яны на агульных прынцыпах творчасці — жаданні падкрэсліць маральную і эстэтычную каштоўнасць мастацтва, высокую значнасць індывідуальнага творчага пачатку, імкненні захаваць адмысловы «свет мастака».

Можна сказаць, што ў «Верасні» сабраліся творцы, якія вызнаюць рамантызм у самых розных яго праявах, якія ўвабралі рэалістычны пафас і рамантычную эмацыянальнасць, характэрныя для 1960 — 1980-х гг., якія імкнуцца да лірычных сюжэтаў і вобразных рашэнняў, да літаратурных і культурных асацыяцый. Пры цяперашняй папулярнасці ў мастацтве друкаваных тэхнік трэба адзначыць вернасць вераснёўцаў самаробнай графіцы: алоўку, пяру, акварэлі, якія захоўваюць жывы рух рукі мастака. Адной з улюбёных тэхнік застаецца акварэль, прадстаўленая ў экспазіцыі ва ўсёй сваёй разнастайнасці — ад традыцыйнай вольнай трансфармацыі натурных матываў (Я. Жылін, Я. Саковіч, Л. Ліхадзед) і архітэктурнага пейзажа (Л. Пашчацава) да лірычнай недаказанасці выяў (І. Лобан, Т. Царова, Н. Марчанка). Мастакі «сярэдняга» пакалення, якія працуюць у станковых графіцы і жывапісу (Н. Марчанка, В. Белавусава-Кірыенка, І. Касабука, М. Эрэнбург), не парываючы з традыцыйнай маляўнічасцю, большую ўвагу надаюць пошукам у галіне сучаснай мастацкай мовы — умоўнай трансфармацыі формаў, фактуры, дэкаратыўнасці. Нягледзячы на тое, што менавіта графіка з'яўляецца для большасці сяброў аб'яднання прыярытэтным кірункам, яны не менш паспяхова рэалізуюць сябе ў дызайне, сцэнічным касцюме, сцэнаграфіі і мультыплікацыі, станковым жывапісе.

Кожны ўдзельнік экспазіцыі прадстаўлены не адной «візітнай карткай», а як мінімум 3 — 4 творамі, якія ствараюць больш поўнае ўражанне пра мастака. Як заўсёды, некалькі персанальных міні-выставак складуць работы мастакоў-юбіляраў (сёлета юбілеі адзначаюць Ю. Зайцаў, К. Паплаўская, Б. Цітовіч, Я. Саковіч). Яшчэ адной традыцыяй з'яўляецца экспанаванне на справаздачных выстаўках творчай спадчыны калег, якія пайшлі з жыцця (М. Рыжыкаў), тым самым удаецца зноў прыцягнуць увагу да іх творчасці, аднавіць сувязь пакаленняў. Акрамя таго, «Верасень» з'яўляецца адкрытай пляцоўкай для маладых мастакоў: да ўдзелу ў выстаўцы былі запрошаны таксама сябры моладзевай секцыі БСМ У. Швайба і Т. Дзяменцьева — прэтэндэнты на хуткае ўступленне ў аб'яднанне.

На фоне распаўсюджвання масавых выяўленчых тэндэнцый, у якіх прафесійнае ўменне знарочыста хаваецца ці, наадварот, адкрыта дэманструецца, «Верасень» застаецца суполкай жывых індывідуальнасцей, не арыентаваных у сваёй творчасці на модныя ці кан'юнктурныя кірункі і тэндэнцыі, працягвае годна развіваць традыцыі айчыннай графічнай школы.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

# Зямля пад белымі крыламі

## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Ігар СОЛТАН, супрацоўнік Івянецкай дзіцячай бібліятэкі, распавядае пра свае даследаванні роднага краю:**

— Неяк мне ў рукі трапіла кніга Уладыслава Браніслава Круля «Szkola jako instytucia wyhowawcza, w srodowisku malomiasteczkowym (na tle konkretnego srodowiska malomiasteczkowego — Iwenec)» — «Школа як выхаваўчая ўстанова ў маламестачковым асяроддзі (на фоне канкрэтнага асяроддзя маламестачковага — Івянец)». З яе даведаўся пра гісторыю роднага пасёлка ў 1920 — 1930-я гады. І мне вельмі захацелася даследаваць яе больш падрабязна. Уласныя краязнаўчыя пошукі выліліся ў шэраг артыкулаў, якія друкаваліся ў раённай і абласной прэсе.

Перш за ўсё мяне вельмі зацікавілі падзеі Вялікай Айчыннай вайны, асабліва аперацыя «Герман», якую праводзілі немцы супраць народных мсціўцаў Налібоцкай пушчы ў адказ на партызанскую аперацыю «Перазвон», падчас якой быў разгромлены івянецкі гарнізон акупантаў.

Упершыню са звесткамі, якія датычаць аперацыі «Герман», я сутыкнуўся, будучы яшчэ школьнікам, калі прачытаў трылогію Алеся Адамовіча «Вайна пад стрэхамі». Там прыводзіцца скарга івянецкага каменданта на бессэнсоўную жорсткасць карнага батальёна пад камандаваннем Дырлівангера, які расстраляў некалькіх івянецкіх дзяўчат быццам бы за сувязь з партызанамі.

Потым бацька паведаў мне, як спалілі немцы яго родную вёску Забор'е, што месцілася на ўскрайку Налібоцкай пушчы, а ўсіх яе жыхароў адправілі ў працоўны лагер. З некаторымі з іх я сустракаўся падчас даследавання аперацыі «Перазвон». Наступнае маё знаёмства з аперацыяй «Герман» адбылося тады, калі па даручэнні кіраўніцтва Івянецкай дзіцячай бібліятэкі збіраў інфармацыю пра спаленыя вёскі Івянецкага сельсавета. Зноў гутарыў з жывымі сведкамі тых трагічных падзей і запісваў іх расповеды.

Аднойчы мне патэлефанавала Вераніка Квач, колішняя жыхарка вёскі Мейшты Івянецкага сельсавета, і паведаміла, што ў яе ёсць дакументы, якія сведчаць пра масавае знішчэнне польскага насельніцтва ў раёне Налібоцкай пушчы. Гэта былі дакументы з Польскай камісіі праследавання злачынстваў супраць польскага народа, яны якраз датычылі аперацыі «Герман». З іх я даведаўся пра новыя падрабязнасці знішчэння навакольных вёсак і раней невядомыя для мяне дэталі гібелі Казіміра Дзяржынскага (роднага брата Фелікса Дзяржынскага) і яго жонкі Люцыі, членаў івянецкага падполля, дакладныя імёны іх катаў.

Праўда, заўважыў некаторыя недакладнасці ў прадастаўленых мне паперах. Напрыклад, у дакументах, якія Веранікі Уладзіміраўне пераслалі з Польшчы, пазначана, што ў вёсцы Забор'е было спалена некалькі чалавек у хляве, але гэта не адпавядае рэчаіснасці. Можа, маецца на ўвазе іншая вёска Забор'е, а следчы проста пераблытаў факты.

Працягваю збіраць матэрыялы і паступова адкрываю ўсё новыя і новыя старонкі нашай гісторыі, звязаныя з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны ў Івянцы і яго ваколіцах.

*Музейны ўнікат*

# Магія саламяных шэдэўраў

**Вырабы з саломы заўсёды ўражваюць прыгажосцю, натуральнасцю, архітэктурнай дакладнасцю форм, якая дасягаецца за кошт дэкаратыўных магчымасцей матэрыялу. Пацвярджэннем таму — выстаўка «Магічнае святло саломы», якая праходзіць у Музеі беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах, філіяле Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.**

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

У экспазіцыі прадстаўлены творы беларускіх майстроў саломапляцення з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея і дыпломныя праекты выпускнікоў кафедры мастацкай і педагагічнай адукацыі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка.

— Вытокі беларускага саломапляцення сягаюць у далёкую старажытнасць, — сцвярджае загадчыца Музея беларускага народнага мастацтва Вольга Залуцкая. — Першапачаткова нашы продкі выкарыстоўвалі гэты танны матэрыял для вырабу ўтылітарных прадметаў, пакрывалі дахі хат. Адна з самых старажытных традыцый — упрыгожванне апошняга дажынкавага снапа. Магчыма, паступова ён трансфармаваўся ў саламяныя выявы жанчыны, каня, птушкі… Паступова, з пранікненнем хрысціянства, магічны змест саламяных фігур забыўся.

Ярка, шматпланава мастацкія і дэкаратыўныя якасці звычайнай саломы праявіліся ў вырабах, якія выкарыстоўваліся ў рытуальных мэтах. На мяжы XVIII — XIX стст. пры дапамозе саломы аздаблялі царкоўныя інтэр'еры, прынамсі, так званыя царскія вароты. Гэта вяршыня творчасці беларускіх майстроў таго часу. Увогуле, нідзе з еўрапейцаў ніколі не ўжываў жытнюю салому для аздаблення хрысціянскіх храмаў, у архітэктурна-дэкаратыўных мэтах, ды яшчэ ў такіх маштабах.



Ліздзія Главацкая «Паўлін». 1986. Салома, пляценне.



Кацярына Русаковіч «Сонейка». 1979. Салома, аплікацыя.

Раўбіцкая экспазіцыя перш за ўсё знаёміць з творамі старэйшых майстроў саломапляцення. Менавіта іх творы з'яўляюцца эталоннымі, і многія пакаленні вучыліся і вучацца ў іх, прадаўжаючы слаўныя традыцыі Веры Гаўрылюк, Алены Паўлоўскай, Таісіі Агафоненка, Яўгена і Галіны Саламянак, Тацяны Аляксеевай.

— Неверагодная прыгажосцю і вытанчанасцю вызначаюцца работы Лідзіі Главацкай, — падкрэсліла Вольга Леанідаўна. — Яе фантастычныя птушкі зіхацяць і пераліваюцца, нібы сонечныя промні. Для таго, каб так адчуць салому, неабходны абсалютны густ і віртуозная тэхніка. Не можа не ўразіць колеравае і кампазіцыйнае рашэнне, блізкае да тканых дываноў, вырабаў майстрыхі з вёскі Рухава Старадарожскага раёна Кацярыны Русаковіч. Але галоўны матыў — стылізаваныя птушкі, заключаныя ў вянок кветкі — вельмі моцна перагукаецца з саламянымі скульптурамі. Дарэчы, усё гэта не пляцецца, а выразаецца з плоскай пафарбаванай саломы і наклейваецца на тканіну. Атрымалася дзівосная мастацкая рэч!

У кожнага майстра свае прыёмы. Свая вобразная мова. Не могуць не захапіць сваёй вытанчанасцю і неверагоднай ювелірнай дакладнасцю работы Тацяны Аляксеевай. Яе куфэркі, інкруставаныя саломкай, нібы каштоўныя камяні, пераліваюцца ўсімі колерамі вясёлкі. Мастачка віртуозна валодае прыёмамі інкрустацыі, ствараючы ўзоры з маленечкіх кавалкаў саломы розных колераў і адценняў. У экспазіцыі каля 20 яе твораў.

— Работы маладых паказваюць, што мастацтва беларускай саломкі паднялося на якасна новы ўзровень, — зазначае Вольга Залуцкая. — Працягваючы традыцыі класікаў, маладыя майстры не толькі захоўваюць класічныя прыёмы апрацоўкі саломы і сюжэтных кампазіцыі, але ў іх работах мы назіраем узмацненне дэкаратыўнага пачатку, імкненне да складанасці сюжэтных ліній і вобразаў, змену асартыменту. Такім чынам, традыцыі мастацкай саломы прадаўжаюцца.

*Радзімазнаўчы досвед*

# «Залацінкі»-словы з Чэрвеньшчыны

**Сцяпан МІРШЧЫНА**

Вядомы мовазнаўца Сяргей Запрудскі ў прадмове да перавыдання «Краёвага слоўніка Чэрвеньшчыны» М. Шатэрніка (тэматычны дадатак да нумара «ARCHE», прысвечанага беларускаму мовазнаўству 1920-х гадоў, — Мінск, 2011) зазначае: «У лютым 1926 г. С. Некрашэвіч выступіў з дакладам «Мовазнаўчая праца краязнаўчых арганізацый» на Першым усебеларускім краязнаўчым з'ездзе, дзе растлумачыў вялікае значэнне далучэння краязнаўства да выканання лінгвістычных задач. Планы і вынікі дзейнасці слоўнікавай камісіі, скіраваныя на збіранне лексічнага матэрыялу, не могуць не ўражваць і сёння. Камісія пастанавіла ўкласці дзесяць краёвых слоўнікаў (адпаведна з колькасцю тагачасных акруговых краязнаўчых таварыстваў), тры слоўнікі для Заходняй Беларусі і тры слоўнікі для Гомельшчыны, Смаленшчыны і Невельшчыны. Калі па стану на люты 1926 г. слоніўкавая камісія мела каля 80 тысяч картак-слоў, выпісаных пераважна яе супрацоўнікамі з тагачаснай літаратурнай мовы, то да канца 1927 г. картатэка слоўніка налічвала ўжо больш за 400 тысяч адзінак, пры гэтым укладзена яна была ўжо з апорай на працу вялікай колькасці людзей. Па закліку Інстытута беларускай культуры зборам беларускіх слоў у гэты час займаліся каля 1500 чалавек! На жаль, з-за трагічных падзей 1930-х гг. гэты грандыёзны праект беларускай лінгвістыкі не быў ажыццёўлены…»

І тым не меней было зроблена вельмі шмат. «Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны» — выдатнае таму пацвярджэнне. Яго руплівы збіральнік Мікалай Шатэрнік (1890 — 1934) працаваў у розных школах Міншчыны: у Смілавічах, Чэрвені, вёсцы Ляды Чэрвеньскага раёна, вёсках Дукора і Навасёлкі Пухавіцкага раёна. Адпаведна — адтуль і многія «моўныя залацінкі». Радзіма ж М. Шатэрніка — чэрвеньская вёска Старына. І, як паказвае знаёмства са слоўнікам, большасць здабыткаў, знаходак — адтуль.

Чытаеш старонкі яркага, прыгожага моўнага дзённіка, занатаванага звычайным, хіба што бясконца ўлюбёным у сваё, роднае, настаўнікам, — і разумееш, якім багаццем стагоддзе таму валодаў беларускі народ. І як важна не згубіць гэтыя багацці цяпер! Як вобразна гаварылі ў Старыне: «Вот дзе дзеткі: незуць ды лезуць; дай ім тое, дай ім ета» (значыць: без перадышкі, несупынна). Альбо: «Бязмальна ўвесь хлеб выйшаў». Значыць: без малога. «За вітушніка замуж не пайду». Вітушнік — чалавек у лапцях. «Цяпер няхай музыка пайграя нам ланцужку». Ланцужка — танец, які выконваюць дзяўчаты.

С. Запрудскі нагадвае ў прадмове і наступнае: «Дакладнасць выкарыстаных пры ўкладанні слоўніка запісаў зрабіла добрую паслугу пачынальніку беларускай філалогіі, акадэміку Яўхіму Карскаму, які, грунтуючыся на прыведзеных у працы ілюстрацыях, у 1930 г. апублікаваў дыялекталагічны нарыс Чэрвеньскага раёна…»

М. Шатэрнік у 1920-я гг. шмат выступаў у друку як краязнаўца. Відавочна, што некаторыя з тагачасных публікацый чэрвеньскага і пухавіцкага настаўніка вартыя ўзнаўлення. Дык чаму ў такім разе не выдаць кнігу М. Шатэрніка па краязнаўстве?

# Ратуша запрашае

Да Дня горада ў Музеі гісторыі горада Мінска, у гарадской ратушы, адкрыўся картаграфічны кабінет, дзе змешчана больш як 10 рэканструкцый карт. Наведвальнікі змогуць разглядзець горад на карце Герарда Меркатара «Еўропа. 1554 год», на картах «Мінскае ваяводства» XVII ст., «Мінскае ваяводства ў 1772 годзе», картах Мінска і яго наваколля XIX — пачатку XX стст. Прадстаўлены і рэканструкцыі карт Клаўдзія Пталемея (II ст.), Аль Ідрысі (XIII ст.). Над іх узнаўленнем працаваў беларускі гісторык-картограф Леў Казлоў.

Ідэя стварэння картаграфічнага кабінета ўзнікла невыпадкова. На працягу стагоддзяў ратуша была цэнтрам адміністрацыйнага жыцця горада, які знаходзіўся на перакрыжаванні гандлёвых і ваенных шляхоў. Адзін з асноўных прадметаў новага праекта — глобус «Меркатар», які сведчыць пра гісторыка-геаграфічныя веды Еўропы пачатку XVII ст. Новыя для таго часу картаграфічныя звесткі пра межы дзяржаў дазволілі акрэсліць контуры Вялікага Княства Літоўскага і пазначыць на яго тэрыторыі Мінск, Брэст, Нясвіж, Навагрудак, Пінск.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Знайшлі паразуменне

**Міжнародны «круглы стол» «Шлях культуры Агінскіх», правядзенне якога ініцыіраваў дабрачынны фонд «Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага» (г. Маладзечна), прайшоў нядаўна ў Музеі гісторыі горада Мінска.**

**Павел САПОЦЬКА**

Першапачаткова, па задумцы арганізатараў, ён павінен быў мець характар рабочага пасяджэння, аднак удзел у ім асоб, творчымі і навуковымі намаганнямі якіх у Беларусь было вернута імя вялікага кампазітара і дзяржаўнага дзеяча Міхала Клеафаса Агінскага ды іншых прадстаўнікоў княжаскага роду, змяніў фармат сустрэчы.

Першая частка мерапрыемства ўяўляла сабой «справаздачу» пра праведзеную работу па адраджэнні культурнай спадчыны роду Агінскіх, якая ўразіла сваімі маштабамі не толькі літоўскіх калег, але і ўдзельнікаў ад Беларусі. Гэта прысваенне імя Міхала Клеафаса Агінскага Маладзечанскаму дзяржаўнаму музычнаму вучылішчу (цяпер каледж), усталяванне мемарыяльнай дошкі на доме ў Фларэнцыі, дзе жыў кампазітар, і яе копіі на будынку каледжа, узвядзенне помніка ў Маладзечне (скульптар Валяр'ян Янушкевіч), пастаноўка спектакля «Паланэзы на развітанне» Мінскім абласным драматычным тэатрам, здымкі дакументальнага фільма «Рана ў сэрцы. Міхал Клеафас Агінскі» (рэжысёр Анастасія Мірашнічэнка, РУП «Беларускі відэацэнтр»), шматлікія музейныя праекты і навуковая дзейнасць Дзяржаўнага музея тэатральнай і музычнай культуры Беларусі, выданне шэрагу матэрыялаў пра жыццё і творчасць Агінскіх, экскурсійна-турыстычная дзейнасць. Пра гэта і многае іншае распавялі дырэктар Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. К. Агінскага Рыгор Сарока, дырэктар Дзяржаўнага музея тэатральнай і музычнай культуры Беларусі Зінаіда Кучар, мастак-рэстаўратар Сяргей Верамейчык…

Вялікую цікавасць удзельнікаў «круглага стала» выклікала выступленне кандыдата мастацтвазнаўства Святланы Немагай — аўтара манаграфіі «Жыццё і творчасць Міхала Клеафаса Агінскага ў каардынатах яго часу і культурнай прасторы», якая прадстаўляе сабой комплекснае даследаванне творчай дзейнасці кампазітара. Пры напісанні манаграфіі даследчык доўгі час працавала ў архівах і бібліятэках Беларусі, Польшчы, Літвы і Германіі.

У той жа час літоўскія калегі — дырэктар Рэтаўскага музея гісторыі культуры Агінскіх Вітас Руткаўскас, старшыня Нацыянальнай камісіі Літоўскай Рэспублікі па справах ЮНЕСКА Ромас Пакалніс, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея імя Чурлёніса Освальдас Даўгеліс ды іншыя — падзяліліся сваім досведам па ўвекавечанні памяці кампазітара.

Несумненна, адна з цэнтральных тэм зацікаўленай размовы — абмеркаванне рэстаўрацыі сядзібы ў Залессі (Смаргонскі раён). Пра гэта ўдзельнікам распавялі намеснік старшыні мясцовага райвыканкама Генадзь Бычко і намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Смаргонскага райвыканкама Таццяна Ражэва. Рэстаўрацыйныя работы на аб'екце пачаліся ў 2011 годзе ў межах Дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы. Таксама райвыканкам сумесна з Дырэкцыяй Тракайскага нацыянальнага парку (Літва) у межах праграмы трансгранічнага супрацоўніцтва «Латвія — Літва — Беларусь» рэалізуе праект «Выкарыстанне гістарычных сядзіб і іх адаптацыя да сучасных культурных умоў», дзякуючы якому ў Залессі будзе адрэстаўравана і абсталявана мэбляй і музычнымі інструментамі канцэртная зала. Плануецца шэраг іншых мерапрыемстваў. Як адзначыў дырэктар Тракайскага нацыянальнага парку Гінтарас Абаравічус, праект, які рэалізуецца паміж Залессем і Ужутракісам, спрыяе не толькі адраджэнню нашай матэрыяльнай спадчыны, але ўзмоцніць нашае супрацоўніцтва і ў іншых галінах культурнай дзейнасці.

Варта адзначыць, што некалькі гадоў таму ў Смаргонскім раёне былі створаны мясцовы дабрачынны фонд «Паўночныя Афіны», адна з галоўных мэт якога — прыцягненне фінансавых сродкаў для адраджэння залескай сядзібы.

На працягу некалькіх гадоў дзейнасці фондаў «Паўночныя Афіны» і «Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага» пры правядзенні розных мерапрыемстваў фінансавую падтрымку аказвалі беларускія прадпрымальнікі. Пра гэта распавяў старшыня прэзідыума рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Уладзімір Карагін і першы віцэ-старшыня Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і працадаўцаў Уладзімір Сівуха. Адзначым, што летась Уладзімірам Карагіным з аўкцыёну была набыта адна з кніг Леанарда Ходзькі — сакратара Агінскага — і перададзена Смаргонскаму гісторыка-краязнаўчаму музею.

Намеснік начальніка ўпраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Дзмітрый Шляхцін пазнаёміў удзельнікаў з планам мерапрыемстваў, прымеркаваных да святкавання 250-годдзя з дня нараджэння М. К. Агінскага. Сярод іх — правядзенне міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу імя Агінскага ў Залессі і канцэрта яго лаўрэатаў, рэспубліканскай мастацкай выстаўкі з выданнем каталога, конкурсу на стварэнне помніка кампазітару ў Залессі, прысваенне адной з вуліц у Мінску імя Агінскага ды іншае.

Як зазначыла намеснік адказнага сакратара Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА Іна Васілеўская, пасляхова пройдзены ўсе працэдуры, неабходныя для ўключэння 250-годдзя з дня нараджэння Агінскага ў Каляндар памятных дат ЮНЕСКА.

Прагучалі і канкрэтныя прапановы, датычныя міжнароднай праграмы «Шлях культуры Агінскіх» на 2013 — 2015 гг. Сярод іх — гастрольныя праекты, мастацтвазнаўчыя туры, мастацкія пленэры, музычныя фестывалі. Створаны грамадскі арганізацыйны камітэт.

На працягу верасня ўсе прапановы і ідэі, выказаныя на пасяджэнні і згрупаваныя па адпаведных кірунках, пройдуць экспертную ацэнку беларускіх і літоўскіх спецыялістаў. Праграма і праекты, якія рэалізуюцца ў яе межах, з'яўляюцца адкрытымі для ўдзельнікаў з іншых краін, у першую чаргу звязаных з дзейнасцю роду Агінскіх.

*З нагоды*

# Мотальскі летапісец

**Фотаздымкі першага мотальскага фатографа Аляксея Мінюка прадстаўлены на выстаўцы «Палескае мястэчка: Моталь» у Доме-музеі I з'езда РСДРП, філіяле Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.**

**Раіса МАРЧУК**

Гэта сапраўдны летапіс даваеннага і пасляваеннага мястэчка, выдатнае дакументальнае адлюстраванне паўвекавога жыцця палешукоў пачынаючы з 1927 года.

— Свае першыя здымкі Аляксей Мінюк пачаў ствараць у 20-я гады мінулага стагоддзя саматужным апаратам, зробленым з лінз ад акуляраў, — распавёў малодшы навуковы супрацоўнік Дома-музея I з'езда РСДРП Андрэй Ляневіч. — У асноўным гэта былі партрэты аднавяскоўцаў, краявіды роднага мястэчка. Падручнікам па фотамастацтве служыла польская кніга, якая знаходзілася ў бібліятэцы аднаго з жыхароў і стала настольнай для першага мотальскага фоталетапісца. У пасляваенны час Аляксей Мінюк працуе вясковым фатографам ад сельпо, а затым райпрамкамбіната.

Не ўсе работы фотамайстра захаваліся, але той матэрыял, які знаходзіцца ў фондах Мотальскага музея народнай творчасці, і тая яго частка, што экспануецца на выстаўцы, дазваляюць зазірнуць у мінулае і пабачыць імгненні палескага жыцця. Дарэчы, першы пісьмовы ўспамін пра Моталь як прыватнае ўладанне быў змешчаны ў актах Літоўскай метрыкі і датаваны 1422 годам. У сярэдзіне XVI ст. Моталь атрымаў статус мястэчка і, паводле рэвізіі 1555 года, меў Магдэбургскае права.



*Палешукі ў знакамітых мотальскіх кажухах.*

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Моталь увайшоў у склад Расійскай імперыі і стаў цэнтрам воласці Кобрынскага павета Гродзенскай губерніі. Па стане на 1886 год у мястэчку было 239 двароў, 2 царквы, капліца, яўрэйскі малітоўны дом, школа, 13 крам, 7 корчмаў, праводзіўся кірмаш.

— Дакладных дадзеных па фотаздымках у нас, на жаль, няма, — працягвае Андрэй Ляневіч. — На адной з картак мы бачым палешукоў у знакамітых мотальскіх кажухах, якія былі вядомы далёка за межамі рэгіёна і шыліся па спецзамовах нават для савецкай партыйнай эліты. Другі здымак — прыклад «мястэчковай» моды. Цікавы і сам здымак, на якім адлюстраваны хлопец у камізэльцы і сарочцы. Глядзіцца ўжо па-гарадскому. Але тут жа бачым унікальную дэталь: з-пад белай сарочкі выглядвае кашуля-вышыванка. Гэтакі элемент стылю, вельмі характэрны для мястэчак, — сімбіёз вясковай і гарадской моды.



*Па мястэчковай модзе.*

Акрамя таго, у выставачнай зале прадстаўлены «местачковыя» рэчы з прыватнага збору жыхаркі Слуцка Ірыны Кахановіч: ручнікі, традыцыйныя кашулі, друкаваныя выданні, скрыпка, гадзіннік ды іншыя, датаваныя першай паловай XX стагоддзя.

## Адраджэнне выцінанкі

**Раіса МАРЧУК**



Сёння выцінанка перажывае ўсплёск зацікаўленасці і своеасаблівае адраджэнне. Сведчанне таму — выстаўка члена Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Вольгі Бабурынай «Правы выцінанкі», ці мастацкае ўвасабленне «Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека», якая адкрылася ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.

Назва выстаўкі «Правы выцінанкі» ўзнікла з разумення таго, што гэты від мастацтва ўжо выйшаў за свае традыцыйныя межы і заяўляе свае правы не толькі як народнае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, але і як від графікі, які можна адлюстраваць самыя актуальныя тэмы агульначалавечага характару.

— Выцінанка, простая і даступная ў матэрыялах, заваражвае сваёй магіяй нечаканасці, калі раскладваецца выразаная папера і перад намі ўзнікае ажурны малюнак, — зазначыла Вольга Бабурына. — На Калядах суправаджае нас паўсюдна, глядзіць са шматлікіх вокнаў. Выцінанка звычайна ўспрымаецца як мастацтва выразання з паперы. Але сёння яна засвойвае новыя прасторы нашага жыцця, пакідаючы за сабой асноўныя свае прынцыпы — стылізацыю, шматразовае складванне, тэхніку выразання. Гэты від мастацтва развіваецца, патрабуючы прызнання сучаснікаў.

На выстаўцы прадстаўлена серыя з 30 работ, кожная з якіх адпавядае аднаму артыкулу «Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека». Што можа быць найбольш сучасным, агульначалавечым і адначасова блізкім кожнаму з нас? Традыцыйнае мастацтва і сучасныя касмапалітычныя з'явы падаюцца многім несумяшчальнымі. Кожная работа — спалучэнне артыкула Дэкларацыі і рэчаіснасці, месцазнаходжання ў прасторы і часе, адчування сябе тут і цяпер, згадванне каштоўнасцей, на якіх толькі і могуць будавацца адносіны паміж людзьмі. Тым цікавей, сцвярджае майстар, дакрануцца да гэтай тэмы і спалучыць яе з нашым менталітэтам не праз словы, а праз традыцыйныя вобразы, сімвалы і кампазіцыйныя прыёмы.


Фота з сайта rncm.ac.uk

# TyzenHouse ў Гродне

**Гродзенскі аблвыканкам пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь з 12 па 15 верасня праводзіць у Гродне фестываль класічнай музыкі з удзелам зорак сусветнай велічыні.**

Свята атрымала назву *TyzenHouse*, што звязана з імем вядомага мецэната-гродзенца XVIII стагоддзя Антонія Тызенгаўза. У свой час ён адкрыў Гродзенскі драматычны тэатр, у сучасным будынку якога і адбываюцца канцэрты.

Ініцыятар фестывалю — наш зямляк Кірыл Кедук. Ён нарадзіўся і атрымаў пачатковую музычную адукацыю ў Гродне. Сёння гэта беларускі піяніст з сусветным іменем. Кірыл аднагачасова вучыцца ў Польшчы і Італіі, жыве ў Германіі, дае канцэрты ў Англіі, Амерыцы і іншых краінах. Віртуозна грае на фартэпіяна. І не ўяўляе жыцця без... футбола! Словы «конкурс», «гастролі», «гукапіс», «здымка» даўно ўвайшлі ў яго звыклы лексікон. Пры ўсім гэтым Кірыл застаецца надзвычай адкрытым для зносін маладым чалавекам!

Музычнасць у Кірыла — ад бацькоў. Тата, Уладзімір Эдуардавіч, меў абсалютны слых. Маці, Святлана Іванаўна, выкладае ў музычным каледжы, з'яўляецца мастацкім кіраўніком аркестра рускіх народных інструментаў. Менавіта бацькі не толькі за руку прывялі ў свет музыкі, але і многія гады поплеч ішлі па ім з сынам. З цеплынёй і ўдзячнасцю гаворыць вучань пра першую настаўніцу. Наталля Латышава вучыла асновам нотнай граматы, фарміравала культурную асобу. Ва ўзросце шасці-сямі гадоў, прызнаецца Кірыл, ён без асаблівага энтузіязму сядаў за кнігі пра кампазітараў. Затое цяпер усведамляе ўсю каштоўнасць атрыманых ведаў.

— Прынята лічыць, што дзеці, якія займаюцца музыкай, пазбаўлены дзяцінства. Ці так гэта?

— Ім дадзена большае — духоўнае развіццё, — нешматслоўна адказвае Кірыл. — Музыка ўзбагачае чалавека, робіць яго асаблівым.

Толькі акуратна складзенае рэзюмэ дазваляе не выпусціць з-пад увагі ўсіх конкурсаў, на якіх паспяхова выступіў наш зямляк. Спынямся на самых значных. 2001 год — другое месца на конкурсе маладых піяністаў памяці Уладзіміра Гаравіца (Украіна) і спецыяльны прыз за найлепшае выкананне твораў украінскага аўтара. Першы прыз і спецыяльны прыз на конкурсе Фрэдэрыка Шапэна ў Варне (Балгарыя). Перамогі на міжнародных конкурсах у Італіі, Польшчы, у тым ліку на міжнародным конкурсе піяністаў імя Артура Рубінштэйна. У 2010 годзе — першая прэмія на конкурсе *James Mottram International Piano Competition* (Англія).

У чарадзе дасягненняў асаблівае месца адведзена перамозе на конкурсе ў межах прэстыжнага фестывалю класічнай музыкі *Kissenger Sommer*, які штогод праходзіць у курортным горадзе Бад Кісенгер (Германія). Выключнасць конкурсу ў тым, што самому нельга накіраваць заяўку: шасцярых музыкаў запрашаюць да ўдзелу. Упершыню за гісторыю конкурсу ў 2010 годзе Кірыл Кедук стаў уладальнікам не толькі першай прэміі паводле рашэння журы, але і атрымаў прыз глядацкіх сімпатый. Як пераможца ў якасці запрошанага госця малады піяніст іграў з Нацыянальным філарманічным аркестрам Расіі пад кіраўніцтвам Томаса Зандэрлінга. У канцэрце саліраваў таксама Уладзімір Співакоў.


Фота з сайта rncm.ac.uk

— Пасля выступлення са Співаковым я атрымаў высокую ацэнку крытыкаў, што вельмі складана ў Германіі, — адзначыў Кірыл.

Геаграфія выступленняў Кірыла Кедука шырокая: Еўропа, ЗША, Паўднёвая Амерыка. Яго сустракалі ў такіх залах, як *Sala Verdi* (Мілан, Італія), *Mozarteum* (Зальцбург, Аўстрыя), Стэйнвей-Хол (Нью-Ёрк, ЗША). Саліраваў з Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам Беларусі, сімфанічным аркестрам Ліверпульскай філармоніі, філарманічным сімфанічным аркестрам Ніцы, сіцылійскім сімфанічным аркестрам і іншымі.

— Якія слухачы найбольш удзячныя?

— З аднолькавай аддачай іграю ў любой краіне. Але ўсё ж самая падрыхтаваная публіка ў Германіі. Мастацтва ў немцаў у крыві. Англічане — удзячныя слухачы. А ў Італіі нават перастаў дзівіцца таму, што падчас канцэрта чалавек можа ўстаць і пайсці, да прыкладу, па цукар для кавы. Але гэта зусім не азначае, што італьянцы не любяць музыку. Іграць на радзіме для мяне — асаблівае задавальненне. Праўда, у большасці сваёй беларускі слухач не моцна дасведчаны ў музыцы.

Пасля перамогі ў 2001 годзе на міжнародным конкурсе маладых піяністаў памяці Уладзіміра Гаравіца Кірылу Кедуку прапанавалі на выбар працягнуць адукацыю ў Расіі ці Польшчы. Узважыўшы ўсе «за» і «супраць», бацькі аддалі перавагу другому варыянту. Кірыл паступіў у ліцэй пры акадэміі музыкі ў Гданьску, пасля — ва ўніверсітэт. Аднагачасова атрымліваў адукацыю ў музычнай акадэміі горада Імола (Італія), дзе шмат гадоў курс *Incontri col Maestro* вядзе віртуозны піяніст, заслужаны артыст Расійскай Федэрацыі Барыс Петрушанскі.

Асаблівай стомы ад пераездаў з краіны ў краіну Кірыл не адчувае. Кажа, што ў сучасным свеце адлегласць даўно іграе далёка не першую партыю.

На вуліцах Варшавы, Імолы, Берліна (Кірыл жыве ў Германіі — гэта зручней за ўсё) малады піяніст ўжо не госць. Але ні на адной з іх не бывае так спакойна, як у Гродне. Перамога на конкурсе ў межах фестывалю *Kissenger Sommer* прынесла Кірылу кантракт з Лонданскай музычнай агенцыяй, а гэта выступленні ў найлепшых залах Англіі, уключаючы *Bridgewater Hall, Wigmore hall*, Ліверпульскую філармонію.

— Як удаецца ўсё паспяваць?

— Лёгка, — адказвае піяніст. — Галоўнае — правільна арганізаваць дні.

У Кірыла яны не падобныя адзін да аднаго. Здараецца, з раніцы ляціць на самалёце, днём едзе ў цягніку, а ўвечары, калі ёсць сілы, займаецца музыкай. У дні, калі не трэба нікуды спяшацца, за інструментам піяніст праводзіць не менш як пяць гадзін. Апроч музыкі ёсць у жыцці Кірыла яшчэ адно захапленне — футбол. У нядзелю, нават перад канцэртамі, ён не можа адмовіць сабе ў задавальненні пагуляць на стадыёне.

У завяршэнне гутаркі, вядома ж, пытанні пра музыку і сам фестываль.

— Кірыл, хто твой любімы кампазітар?

— Перавагі змяняюцца ў залежнасці ад настрою, пары года, стану душы. Вельмі люблю Шумана.

*TyzenHouse*. Кірыл Кедук вырашыў падарыць свайму роднаму гораду свята класічнай музыкі і запрасіў да ўдзелу ў ім самых вядомых музыкантаў свету.

12 верасня перад гарадзенцамі выступаў піяніст-віртуоз Барыс Петрушанскі — заслужаны артыст Расіі, лаўрэат Міжнародных конкурсаў, вядучы майстар-класаў у Вялікабрытаніі, ЗША, Германіі, Японіі, Італіі.

Сёння, 13 верасня, Драматычны тэатр сустракае Міхаіла Сіманяна — скрыпача, які лічыцца адным з выдатных талентаў свайго пакалення. Прэса піша пра яго як пра другога Давіда Ойстраха, ён пераможца міжнароднага конкурсу скрыпачоў у Нью-Ёрку, Санкт-Пецярбургу, Лондане. У Расіі М. Сіманян удастоены звання «Віртуоз года», атрымаў вышэйшую ўзнагароду *Classical Recording Foundation*.

Выступіць і сам Кірыл Кедук. Дарэчы, у красавіку гэтага года ён выпусціў свой дэбютны альбом, прысвечаны памяці бацькі, запісаны адным з найлепшых музычных лэйблаў у свеце.

14 верасня дае канцэрт адзін з самых выбітных польскіх музыкантаў — Пётр Палечны, піяніст, пераможца мноства міжнародных конкурсаў. Ён з велізарным поспехам выступае сольна і з найлепшымі аркестрамі на сусветных канцэртных пляцоўках у Амстэрдаме, Вене, Лондане, Зальцбургу ды іншых гарадах Еўропы.

У апошні дзень фестывалю, 15 верасня, разам з Дзяржаўным камерным аркестрам Рэспублікі Беларусь (пад кіраўніцтвам дырыжора, заслужанага артыста Расіі Яўгена Бушкова) сваё майстэрства прадэманструюць Кірыл Кедук і Іван Карызна — віяланчэліст, які прадстаўляў Беларусь у Вене на фінале класічнага «Еўрабачання-2010». Цяпер І. Карызна — студэнт парыжскай Вышэйшай нацыянальнай кансерваторыі.

На канцэрце ў Гродне калектывам будзе кіраваць польскі дырыжор Якуб Храновіч — галоўны дырыжор тэатра оперы і балета ў Беластоку, выпускнік Акадэміі музыкі ў Познані, выступае з выбітнымі аркестрамі Еўропы.

Мерапрыемства такога кшталту не мае аналагаў у краіне, бо настолькі маштабны фэст музычнай класікі ўпершыню праводзіцца ў абласным цэнтры рэспублікі. *TyzenHouse* разам з Кірылам Кедуком запрашае ў Гродна ўсіх аматараў класічнай музыкі.

**Таццяна ШЫМУК**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2637
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 12.09.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3909
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
13036